# КАНЦЭПЦЫЯ АДУКАЦЫІ І ВЫХАВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ

ПРАЕКТ

**По даручэнні Міністэрства адукацыі рэспублікі пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце адукацыі створаны часовы творчы калектыў, які ў сціслы тэрмін падрыхтаваў і прапануе шырокай грамадскасці для абмеркавання праект Канцэпцыі, якая ўяўляе агульную архітэктуру нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання. У хуткім часе будуць надрукаваны праекты канцэпцый па асобных структурных элементах сістэмы, дзе многія пытанні акрэсляцца больш канкрэтна і падрабязна.**

**Праект Канцэпцыі быў абмеркаваны на пашыраным пасяджэнні Вучонага савета БелНДІ адукацыі з удзелам членаў калегіі Мінадукацыі, а таксама прадстаўнікоў шэрагу навуковых і навучальных устаноў. Многія з выказаных заўваг улічаны. Але праца прадаўжаецца. У сувязі з тым, што праблемы адукацыі і выхавання маюць вызначальнае значэнне для лёсу Беларусі і датычацца кожнага чалавека, мы заклікаем педагогаў, бацькоў, навучэнцаў, усіх жыхароў рэспублікі далучыцца да абмеркавання праекта Канцэпцыі і свае заўвагі і пажаданні накіроўваць да 15 верасня гэтага года на адрас: 220004, г. Мінск, вул. Караля, 16, БелНДІ адукацыі.**

## УВОДЗІНЫ

Праз складаныя, супярэчлівыя працэсы XX стагоддзя чалавецтва пракладвае свой шлях да развітых форм цывілізацыі. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічае адукацыя, якую варта разумець не толькі і не столькі як перадачу ведаў, а як усведамленне чалавекам сябе і Сусвету, пераўтварэнне ўнутранага свету людзей і навакольнага асяроддзя па законах хараства і гармоніі. Адукацыя становіцца вызначальным фактарам развіцця грамадства, забеспячэння высокага стану яго інтэлекту, духоўнасці і маральнасці, уздыму вытворчасці, навукі і культуры.

Удасканаленне і ўсебаковае развіццё адукацыі мае асаблівае значэнне для лёсу незалежнай Беларусі. Яе дзяржаўнае і нацыянальна-культурнае адраджэнне, эканамічны росквіт магчымыя толькі праз адукацыю, фарміраванне ў рэспубліцы свабоднага дэмакратычнага грамадства. Гэтаму спрые унікальная нацыянальная традыцыя стварэння на беларускай зямлі, пачынаючы з сярэдніх вякоў, шырокай сеткі разнастайных навучальных устаноў. Яны заўжды з'яўляліся духоўнымі цэнтрамі, ачагамі ведаў і культуры, фарміравання нацыянальнай свядомасці.

У бягучым стагоддзі адукацыя на Беларусі прайшла складаны шлях. Ён адметны, з аднаго боку, значнымі поспехамі ў адраджэнні нацыянальнай школы ў 20-я гады, ліквідацыяй непісьменнасці, забеспячэннем шырокіх магчымасцей для атрымання кожным чалавекам агульнай і прафесійнай адукацыі; з другога боку — разбурэннем у 30-я і наступныя гады нацыянальнай школы, жорсткай цэнтралізацыяй кіравання і уніфікацыяй зместу, што не дало адукацыі магчымасці развівацца ў адпаведнасці з патрабаваннямі НТР і прывяло яе да адставання ад узроўню, дасягнутага ў развітых краінах. Гэта прымушала партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва час ад часу праводзіць школьныя рэформы. Але тэарэтычна і практычна глыбока не абгрунтаваныя, яны, па сутнасці, зводзіліся толькі да асобных касметычных змен. Адсутнасць індывідуальнага падыходу, уліку пазнавальных інтарэсаў дзяцей і моладзі адлюстроўвалася ў аднастайнасці відаў і тыпаў навучальных устаноў, у выкарыстанні ў асноўным рэпрадукцыйных, а не развіццёвых метадаў выхавання і навучання. Асобныя школы і класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў, нешматлікія факультатыўныя курсы істотна не мянялі зместу і характару выхаваўча-навучальнага працэсу, арыентаванага на «сярэдняга» вучня.

Якасныя пераўтварэнні ў арганізацыі педагагічнай навукі, метадычным забеспячэнні, падрыхтоўцы настаўнікаў, выкладчыкаў, выхавацеляў не ажыццяўляліся. Гэтыя прафесіі сталі непрэстыжнымі, нізкааплатнымі, у асноўным жаночымі, што яшчэ больш абвастрала праблемы навучання і асабліва выхавання.

Відавочна супярэчылі грамадскім запытам і інтарэсам навучальных устаноў структура і стыль дзейнасці органаў кіравання адукацыяй; яны выконвалі пераважна наглядчыцка-кантрольныя функцыі, ператвараючы настаўніка ў простага выканаўцу інструкцый і афіцыйных методык. Недастатковым было матэрыяльнае і фінансавае забеспячэнне. У выніку сёння навучальна-матэрыяльная база адукацыі і асабліва выхавання не адпавядае сучасным патрабаванням. У гарадах 70% школ працуюць у 2—3-зменным рэжыме, у 60% сельскіх школ няма цэнтральнага ацяплення, водаправода, каналізацыі. Толькі 30% школ маюць памяшканні для заняткаў фізічнай культурай і спортам, адзінкі—басейны. Выклікае вялікую трывогу стан здароўя вучняў і студэнтаў. Амаль кожны трэці школьнік мае розныя хранічныя захворванні.

Сітуацыя ў рэспубліцы абвастрылася яшчэ больш у сувязі з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС і сацыяльна-эканамічным крызісам грамадства. Нягледзячы на прынятыя апошнім часам захады па змяненні структуры кіравання адукацыяй, стварэнні новых тыпаў навучальных устаноў, поспехі асобных настаўнікаў і педагагічных калектываў, істотных перамен у масавай практыцы навучання і выхавання не адбылося. Адукацыя пакуль што не стала асноватворным кампанентам сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця рэспублікі. Разам з тым вопыт замежных дзяржаў (ЗША, Германіі, Японіі, Паўднёвай Карэі і інш.) сведчыць, што выйсце з крызіснага становішча абумоўлена, перш за ўсё, развіццём адукацыі і выхавання, інтэлектуальным і духоўным уздымам нацыі.

На парозе XXI стагоддзя—веку інфармацыйных тэхналогій—практычна ўсе развітыя краіны свету пачалі чарговае інтэнсіўнае рэфармаванне сваіх адукацыйных сістэм. Яно мае наступныя тэндэнцыі:

— павышэнне ролі і значэння адукацыі ў жыцці грамадства, пераўтварэнне яе ў рэальную прадукцыйную сілу;

— фарміраванне цэласнай і гібкай перманентнай сістэмы навучання і выхавання пры спалучэнні разнастайных дзяржаўных і прыватных форм адукацыі;

— абнаўленне зместу, павышэнне фундаментальнасці і лагічнасці адукацыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі навукова-тэхнічнага і сацыяльнага прагрэсу;

— мадэрнізацыя навучальна-матэрыяльнай базы на аснове найноўшых дасягненняў навукі, тэхнікі і педагагічных тэхналогій;

— ранняе выяўленне асабліва здольных юнакоў і дзяўчат, забеспячэнне ім адпаведнай падтрымкі ў набыцці элітарнай адукацыі;

— дэмакратызацыя і гуманізацыя навучання і выхавання;

— актывізацыя дзейнасці навучальных устаноў у якасці сацыяльна-культурных цэнтраў, пашырэнне іх узаемадзеяння з бацькамі і грамадскасцю.

Рэфармаванне адукацыі ў замежных краінах адбываецца на аснове спецыяльных нацыянальных праграм, дзе вызначаюцца прыярытэтныя шляхі яе развіцця на шматгадовую перспектыву. У лік такіх дакументаў уваходзяць: «Амерыка-2000: стратэгія ў галіне адукацыі», «У накірунку XXI стагоддзя: рэформа адукацыі ў Японіі», «Даклад Камітэта экспертаў» (Польшча), даклад ураду «Расійская адукацыя ў пераходны перыяд: праграма стабілізацыі і развіцця», канцэпцыі і праграмы развіцця адукацыі на Украіне, у дзяржавах Прыбалтыкі і інш.

Дадзеная Канцэпцыя адукацыі і выхавання ў Беларусі распрацавана з улікам традыцый, сучаснага сацыяльна-эканамічнага стану рэспублікі і сусветнага вопыту. Яна з'яўляецца тэарэтыка-метадалагічным дакументам для прыняцця рашэнняў на розных узроўнях кіравання, фарміравання дзяржаўных і рэгіянальных праграм, навукова-метадычных распрацовак па забеспячэнні эфектыўнага функцыяніравання нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання.

## РАЗДЗЕЛ І

## ФУНДАМЕНТАЛЬНЫЯ АСНОВЫ АДУКАЦЫІ І ВЫХАВАННЯ

Сістэма адукацыі і выхавання ў былой БССР будавалася, як і ў іншых рэспубліках, па адзінай саюзнай мадэлі, жорстка дэтэрмінаванай з цэнтра. Зараз неабходна перавесці яе на самастойны шлях развіцця і ўсебаковага ўдасканалення дзеля нацыянальна-культурнага адраджэння і сацыяльна-эканамічнага прагрэсу рэспублікі. Гэта патрабуе выяўлення і тэарэтычнага абгрунтавання фундаментальных асноў і арыенціраў нацыянальнага навучання і выхавання.

### 1.1. Нацыянальна-культурнае адраджэнне

Першаснай фундаментальнай асновай сістэмы адукацыі і выхавання з'яўляецца родная культура, якая забяспечвае духоўную пераемнасць паміж сучаснікамі, іх папярэднікамі і нашчадкамі. Яна выступае гарантам пачуцця вечнасці, раўнавагі і бяспекі, неабходных чалавеку для нармальнага біяпсіхічнага развіцця і жыццядзейнасці. Таму спрадвечна выхаванне і адукацыя як асноўны культурастваральны фактар закліканы дапамагаць індывіду і нацыі інтэгравацца ў адзінае цэлае, паглыбляць іх самасвядомасць, за кошт чаго менавіта і ствараюцца перадумовы для развіцця і ўдасканалення. Такім чынам, сістэма адукацыі, якая мае намер выканаць сваё гістарычнае прызначэнне, павінна быць нацыянальнай. Аднак гэта не азначае нацыянальнай замкнёнасці і ізаляцыі, тым больш негатыўных адносін да іншых культур і агульначалавечых каштоўнасцей, бо монакультурная абмежаванасць можа перарасці ў застойнасць, акасцянеласць, што разбурае этнас.

Узаемасувязь выхавання і адукацыі з культурай Беларусі па шэрагу гістарычных прычын мае сёння складаны характар. Сучасная школа не з'яўляецца цэльнай з пункту гледжання культуры: сувязь з роднай культурай у яе шмат у чым выпадковая, недастаткова асэнсаваная; праз адукацыю не ствараецца цэласнай карціны беларускай культуры, не адбываецца фарміравання глыбокай нацыянальнай самасвядомасці. Між тым чалавек сталее праз культуру. Ён можа зрабіцца яе носьбітам, прадаўжальнікам, але можа ператварыцца і ў таго, хто яе руйнуе. Ад апошняга яго могуць утрымаць толькі ў высокай ступені каштоўнасныя, маральныя адносіны да роднай культуры.

Вырашэнне адзначаных праблем найцяснейшым чынам звязана з нацыянальна-культурным адраджэннем Беларусі. Яго неабходна разглядаць як заканамерную з'яву ў гістарычным развіцці народа, калі пасля працяглага перыяду застою і нацыянальнага нігілізму выявілася патрэба ў паскарэнні эканамічных, сацыяльна-палітычных і культурных працэсаў, дасягненні больш высокіх форм грамадскага быцця і нацыянальнай самасвядомасці.

У гэтым працэсе адметную ролю могуць і павінны адыграць адукацыя і выхаванне, але толькі тады, калі яны будуць сапраўды нацыянальнымі. У якасці нацыянальных належыць разглядаць такія навучальна-выхаваўчыя ўстановы, якія садзейнічаюць эканамічнаму і культурнаму развіццю нацыі, далучаюць дзяцей і падлеткаў да родных этнакультурных традыцый, выхоўваюць новыя пакаленні носьбітамі і творчымі прадаўжальнікамі этнасу на падставе высокай нацыянальнай самасвядомасці, паўнацэннага авалодання мовай і культурай свайго народа. Разам з тым яны павінны забяспечваць далучэнне дзяцей і моладзі да сусветнай культуры, агульначалавечых каштоўнасцей.

Для эфектыўнага выхавання нацыянальнай самасвядомасці навучэнцаў і студэнтаў неабходна закласці яе псіхалагічны фундамент: асобасныя механізмы рэфлексійнай, самапазнавальнай дзейнасці, фарміраваць змястоўны і глыбокі ўнутраны свет, Я-канцэпцыю, у якую ўваходзіць усведамленне самога сябе як прадстаўніка пэўнага этнасу, носьбіта нацыянальнага характару. Дасягненне гэтай мэты патрабуе істотнага ўдасканалення сістэмы гуманітарнай адукацыі, адным з галоўных кампанентаў якой павінна стаць набыццё моладдзю псіхалагічных ведаў і ўменняў самапазнавальнай і самавыхаваўчай дзейнасці.

Кожная нацыянальная супольнасць у рэспубліцы павінна мець права і рэальную магчымасць адкрыцця школ і іншых навучальных устаноў, заснаваных на культурных каштоўнасцях свайго этнасу, яго традыцыях. Але ва ўсіх іх належыць прадугледжваць вывучэнне дзяржаўнай мовы, гісторыі і культуры беларускага народа. Неабходна таксама, каб дзейнасць усіх нацыянальных устаноў адукацыі абапіралася на агульначалавечыя прынцыпы маральнасці і дэмакратыі, павагі да правоў людзей і іх культурна-этнічных асаблівасцей.

У беларускай нацыянальнай школе належнае месца павінны заняць нацыянальная мова, гісторыя, геаграфія, літаратура, мастацтва, традыцыі, звычаі, міфалогія, фальклор, музыка, танцы, жывапіс, скульптура, архітэктура, народныя гульні, нацыянальныя віды спорту і г.д. Іншыя прадметы ў ёй трэба выкладаць таксама на роднай мове з улікам нацыянальнай і рэгіянальнай спецыфікі. Апрача таго, выхаваўчую работу трэба скіроўваць на фарміраванне лепшых рысаў нацыянальнага характару, уздым узроўню нацыянальнай самасвядомасці асобы. Разам з тым неабходна вучыць дзяцей і моладзь паважліва ставіцца да матэрыяльнай і духоўнай культуры іншых народаў, выхоўваць пачуцці патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

Павышэнне ролі і пашырэнне элементаў беларускасці ў адукацыі і выхаванні патрабуюць распрацоўкі новых навучальных планаў, праграм, падручнікаў і дапаможнікаў. Асаблівыя намаганні неабходна прыкласці да ажыццяўлення і распаўсюджання дзяржаўнай мовы. Культура, як вядома, акрамя натуральнай, жывой мовы, мае таксама мову жэстаў, эмоцый, сімвалаў, знакаў. Свет чалавечых пачуццяў і перажыванняў, дзе ўвасабляюцца адносіны блізкіх людзей, прасякнуты гукамі, рытмікай і мелодыкай роднай мовы, ён прысутнічае ў музыцы і мастацкіх творах, у архітэктуры, прадметах хатняга ўжытку і г.д. Нацыянальная школа заклікана раскрыць для дзяцей гэты свет.

У нацыянальна-культурным адраджэнні неабходна значна павысіць ролю сельскай школы, якая найцяснейшым чынам звязана з каранямі этнасу, культурай беларускага народа.

Разам з адзначаным, нацыянальная школа павінна даць навучэнцам веды і навыкі сусветнага ўзроўню, дапамагчы ім зрабіцца спецыялістамі і працаўнікамі, здольнымі вывесці рэспубліку ў шэраг развітых цывілізаваных краін.

### 1.2. Выхаванне адукаванай, творчай і маральнай асобы

Адукацыя і выхаванне павінны арыентавацца на гуманістычныя ідэалы грамадства, галоўны з якіх—станаўленне і развіццё адукаванай, творчай і маральнай асобы. Гэта абумоўліваецца няспыннай зменлівасцю навакольнага свету, высокімі тэмпамі эканамічных і палітычных пераўтварэнняў, што патрабуе ад чалавека гібкіх, свядомых і адказных паводзін. Таму неабходна, каб на змену навучанню, якое будавалася пераважна на інфармацыі і памяці, прыйшла адукацыя, арганізаваная на аснове самастойнай творчасці вучняў. Здольнасць да творчасці, сацыяльная і маральная адказнасць пераўтвараюцца ў вядучыя крытэрыі гатоўнасці чалавека да жыццядзейнасці.

Выхаванне адукаванай, творчай і маральнай асобы мае сваю спецыфіку на розных узроставых этапах.

У адпаведнасці з вынікамі педагагічных даследаванняў навучанне ідзе наперадзе псіхічнага развіцця чалавека і вядзе яго за сабой. Апрача таго, на любой узроставай ступені станаўленне асобы залежыць ад пэўнай сацыяльнай сітуацыі, якую складаюць яе адносіны і кантакты з мікраасяроддзем, вядучай дзейнасцю і псіхалагічнымі новаўтварэннямі. Кожнаму ўзросту, кожнаму перыяду індывідуальнай гісторыі асобы ўласцівыя свае непаўторныя якасці і магчымасці для развіцця творчых здольнасцей і засваення багаццяў сусветнай і нацыянальнай культуры. Асаблівы плён тут прыносіць выкарыстанне ўзроставай сензітыўнасці: павышанай успрымальнасці і чуллівасці псіхікі да пэўных адукацыйных уздзеянняў. Спецыяльнай увагі патрабуюць дзеці і падлеткі ў перыяды ўзроставых крызісаў, якія характарызуюцца пэўнымі супярэчнасцямі: вялікія творчыя магчымасці тут спалучаюцца з цяжкасцямі ў выхаванні. Новы ўзровень самастойнасці і самарэалізацыі асобы патрабуе ад дарослых новых падыходаў да дзяцей і падлеткаў, стварэння спрыяльных умоў для іх творчай дзейнасці ў сферы пазнання і зносін, пры асобасным самавызначэнні. Сапраўдныя гуманізацыя і дэмакратызацыя адукацыі якраз і грунтуюцца на перакананні ў тым, што на кожным узроставым этапе свайго жыцця асоба мае права на шчасце, на поўную самарэалізацыю творчага патэнцыялу. Гэта значыць: дзяцінства, маленства, юнацтва—самакаштоўныя перыяды чалавечага жыцця, а не толькі час падрыхтоўкі да працоўнай будучыні.

Аснова адукаванай, творчай, маральнай асобы закладваецца праз далучэнне дзяцей да свету прыгожага: азнаямленне іх з узорамі гармоніі хараства ў прыродзе, грамадстве, у знешнасці чалавека і яго духоўнасці. Асноўнымі метадамі навучання і выхавання становяцца шматварыянтнасць падыходаў, пошук ісціны на падставе некалькіх пунктаў гледжання, дыскусіі, знаходжанне кансенсусу і г. д. Традыцыйныя метады навучання патрабуюцца толькі як спосабы засваення першапачаткова неабходнай інфармацыі.

Творчыя і маральныя якасці дзіцяці развіваюцца пры ўмове яго разняволення, мінімальнага абмежавання дзейнасці і паводзін, максімальнага заахвочвання ініцыятывы і самастойнасці. Яно павінна адначасова вучыцца бачыць, ацэньваць і ствараць прыгожае ў навакольным свеце і ўласным жыцці.

Падлеткам належыць авалодваць азбукай творчасці і чалавечых паводзін, рыхтавацца да выканання грамадзянскіх абавязкаў, развіваць павагу да закона і маралі. У юнакоў і дзяўчат неабходна сфарміраваць псіхалагічную гатоўнасць да дзейнасці ў якасці грамадзян, працаўнікоў, бацькоў, а таксама пачуццё сацыяльнай адказнасці.

Навучальна-выхаваўчыя ўстановы павінны ствараць у навучальным працэсе і за яго межамі неабходныя матэрыяльныя і псіхолага-педагагічныя ўмовы для рознабаковай творчай дзейнасці асобы.

### 1.3. Умацаванне здароўя чалавека і нацыі

Фізічнае і псіхічнае здароўе чалавека і нацыі—найгалоўнейшая каштоўнасць і неабходная ўмова прагрэсіўнага развіцця грамадства. Яно звязана, з аднаго боку, са здаровымі ўмовамі побыту, вучобы, працы, з захаваннем прыроднага асяроддзя і яго скарбаў (зямлі, вады, паветра), а з другога—са стварэннем здаровага ладу жыцця, развіццём фізічнай і псіхалагічнай культуры насельніцтва.

Асновы здароўя асобы павінны закладвацца ў дзяцінстве. Яны грунтуюцца на фізічным і псіхічным здароўі бацькоў і іх псіхолага-педагагічнай і гігіенічнай падрыхтаванасці да выканання выхаваўчых абавязкаў.

Свой уклад у гэту справу трэба зрабіць сістэме адукацыі і выхавання. Па-першае, праз навучанне неабходным уменням і навыкам, фізічнае развіццё навучэнцаў, па-другое—праз стварэнне ў навучальна-выхаваўчых установах спрыяльных умоў для здаровай і бяспечнай вучобы і працы.

Гэта абумоўлівае прынцыпова новыя падыходы да вызначэння зместу і пабудовы навучальна-выхаваўчага працэсу, які па сваёй сутнасці, формах і метадах павінен умацоўваць, а не разбураць здароўе, а таксама патрабуе навуковай распрацоўкі асноўных напрамкаў аздараўленчай педагогікі ў дачыненні да ўмоў Беларусі і іх шырокага выкарыстання ў масавай практыцы.

Неабходна:

— правесці псіхафізіялагічную экспертызу ўсіх навучальных планаў, праграм, падручнікаў, дапаможнікаў і сродкаў навучання на аснове дасягненняў педагагічнай псіхагігіены і псіхапрафілактыкі. Яны набываюць асаблівае значэнне ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем рэспублікі, дзе ўся дзейнасць па адукацыі і выхаванні павінна набыць рэабілітацыйны, псіхатэрапеўтычны характар;

— пераглядзець існуючыя нарматывы і патрабаванні да будынкаў, мэблі і абсталявання з улікам антрапаметрычных даных сучаснай навучэнскай моладзі, а таксама неабходнасці ў стварэнні пакояў гігіены і іншых санітарна-гігіенічных і лячэбна-прафілактычных памяшканняў;

— змяніць арыентацыю заняткаў фізічнай культурай са спартыўнай на аздараўленча-прафілактычную;

— увесці ў навучальна-выхаваўчы працэс усіх устаноў адукацыі абавязковыя курсы па санітарна-гігіенічных праблемах, а таксама асобныя заняткі з хлопчыкамі і дзяўчынкамі з улікам іх псіхалагічнага і фізіялагічнага развіцця;

— забяспечыць аптымальны рэжым дня, рухальную актыўнасць і рацыянальнае харчаванне навучэнцаў;

— на розных ступенях агульнай і прафесійнай адукацыі вывучаць інтэграваныя курсы па здаровай, бяспечнай жыццядзейнасці;

— ажыццяўляць рэгулярныя медыка-псіхалагічныя дыягнастычныя абследаванні дзяцей і падлеткаў з мэтай своечасовага выяўлення хвароб, адхіленняў у псіхафізіялагічным развіцці і правядзення неабходных сацыяльна-псіхалагічных і аздараўленча-карэкцыйных мерапрыемстваў;

— павысіць экалагічную накіраванасць навучання і выхавання, фарміраваць у дзяцей і падлеткаў навыкі адказнага і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў. Увесці пытанні аховы прыроды ў змест агульнаадукацыйных і спецыяльных прадметаў з улікам спецыфікі будучай прафесійнай дзейнасці, яе ўплыву на стан навакольнага асяроддзя;

— уключыць у праграмы падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў вывучэнне экалагічных праблем рэгіёна з улікам радыяцыйнага і іншых фактараў, а таксама засваенне прыёмаў і метадаў псіхагігіены і псіхапрафілактыкі, аздараўленчай педагогікі з выкарыстаннем магчымасцей вывучаемага прадмета.

Разам з захаваннем і ўмацаваннем здароўя дзяцей і навучэнскай моладзі ў рэспубліцы неабходна разгарнуць шырокую асветніцкую работу сярод дарослага насельніцтва па праблемах здаровага ладу жыцця, упарадкавання рэжыму працоўнай дзейнасці і эфектыўнага выкарыстання вольнага часу. З гэтай мэтай належыць арганізаваць рэгулярныя радыё- і тэлеперадачы, выпуск навукова-папулярнай літаратуры, увесці ў працоўных калектывах маральнае і матэрыяльнае стымуляванне работнікаў, якія вядуць здаровы лад жыцця ці пазбаўляюцца ад шкодных для здароўя звычак.

### 1.4. Узаемадзеянне адукацыі, навукі і вытворчасці

Практыка развітых краін свету пацвярджае цесную ўзаемасувязь паміж узроўнем адукацыі і станам навукі і вытворчасці.

Узаемадзеянне адукацыі і навукі абумоўліваецца тым, што навука, пераўтварыўшыся ў культурна-сацыяльную сілу, усебакова ўздзейнічае на фарміраванне светапогляду людзей. Навуковыя адказы на пытанні пра будову Сусвету, узнікненне і сутнасць жыцця, паходжанне і развіццё прыроды, чалавека і грамадства з'яўляюцца фундаментальнымі элементамі адукацыі. Пры гэтым важна, каб яны ядналіся з іншымі кампанентамі светаўспрымання (фальклорам, міфамі, веравызнаннем і г. д.) і стваралі цэласную карціну свету, а таксама выпрацоўвалі ў навучэнцаў філасофскія ідэі і прынцыпы, на якіх грунтуюцца як ідэалы і нормы жыццядзейнасці, так і змястоўныя каштоўнасныя арыентацыі. Ажыццяўляючы прарыў у непазнанае, змяняючы ўяўленні аб розных працэсах і з'явах, навука адкрывае новыя накірункі ў тэхніцы і тэхналогіях, арганізацыі вытворчасці, але іх практычнае выкарыстанне адбываецца праз адукацыю.

Адукацыя як складаны сацыяльны інстытут і культурна-гістарычны працэс, у сваю чаргу, патрабуе навуковага разгляду. Для гэтага неабходна ў рэспубліцы больш мэтанакіравана развіваць цэласны комплекс навук аб адукацыі, у тым ліку філасофію, сацыялогію, эканоміку і гісторыю адукацыі, сацыяльную і народную (этнічную) педагогіку і псіхалогію, параўнальную адукацыю, узроставую псіхалогію і фізіялогію. Толькі на аснове дасягненняў гэтых і іншых навук, атрымліваючы агульнанавуковую і метадалагічную фундацыю, педагогіка можа развівацца паспяхова як тэорыя і практыка навучання і выхавання.

Адной з найважнейшых задач адукацыі сёння выступае падрыхтоўка кадраў для навукі і навукаёмістых сфер вытворчасці і культуры, што патрабуе інтэнсіфікацыі навучання за кошт яго развіццёвых форм і метадаў, выхаду на прыёмы і спосабы крэатыўнай педагогікі. Такі складаны, пераўтваральны ў дачыненні да ўсёй арганізацыі адукацыі працэс звязаны са стварэннем сістэмы ранняй дыягностыкі здольнасцей і рознабаковага развіцця дзяцей, арганізацыяй спецыяльных форм навучання асабліва здольных школьнікаў і студэнтаў. Патрэбна адкрываць навучальныя падраздзяленні пры навукова-даследчых установах. Важна таксама нарошчваць і больш поўна выкарыстоўваць навуковы патэнцыял адукацыі, пашыраць тэматыку даследаванняў, адкрываць пры вышэйшых навучальных установах, кафедрах навукова-даследчыя лабараторыі, цэнтры альбо ствараць навучальна-навукова-вытворчыя аб'яднанні і да т. п. Навука павінна зрабіцца неад'емнай часткай навучальна-выхаваўчага працэсу, неабходным элементам падрыхтоўкі спецыялістаў.

Сувязь адукацыі з вытворчасцю грунтуецца на сучаснай парадыгме працы як цэласным працэсе ўзаемадзеяння з прыродай усіх чалавечых сіл (фізічных, інтэлектуальных, сацыяльных, духоўных) дзеля павышэння культурнага патэнцыялу працы не столькі за кошт эксплуатацыі багаццяў прыроды, колькі за кошт развіцця і выкарыстання магчымасцей самога чалавека. Менавіта таму адукаванасць і прафесійныя здольнасці людзей, якасць і творчая напружанасць іх працы выступаюць асноўнай крыніцай нацыянальнага багацця. Адсюль бяруць пачатак новая роля і значэнне адукацыі як вызначальнага фактару прагрэсу і цывілізаванасці грамадства.

Неабходна зліць у адзіны паток паступленне на вытворчасць прагрэсіўных тэхналогій, новых узораў тэхнікі і адпаведна падрыхтаваных работнікаў, здольных іх эфектыўна выкарыстоўваць на аснове новых метадаў гаспадарання.

У сувязі з пераходам рэспублікі да рыначнай эканомікі практычнае выкарыстанне культурна-прафесійнага патэнцыялу людзей непазбежна ўскладняецца. З аднаго боку, узмацняецца матывацыя якаснага авалодання ведамі і прафесіяй, але з другога—разбураецца прафесійная стабільнасць, патрабуюцца перыядычнае давучванне, перавучванне, пераход да новых прафесій і відаў дзейнасці. Гэтыя працэсы надаюць яшчэ большую значнасць сацыяльна-абарончай функцыі адукацыі, патрабуюць істотных змен у змесце і арганізацыі працоўнага навучання, прафесійнай арыентацыі, падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі кадраў.

Агульнаадукацыйная школа павінна зрабіцца больш практычнай, арганічна ўвязваць навучанне з вытворчай працай і будучай прафесійнай дзейнасцю. Патрабуецца належным чынам рыхтаваць моладзь да самаабслугоўвання, выканання агульна-працоўных работ (рамонт жылля, адзення, прыгатаванне ежы). Выпускнікі школ павінны таксама валодаць уменнямі сучаснага цывілізаванага чалавека (ваджэнне аўтамабіля, карыстанне ЭВМ, складанай бытавой тэхнікай) і нормамі этыкету.

Прафесійная адукацыя ў новых умовах павінна быць бесперапыннай і рознабаковай, арыентавацца на магчымасці неаднаразовай змены спецыяльнасцей і відаў дзейнасці, пастаянны культурна-тэхнічны рост працаўнікоў.

### 1.5. Мэты і прынцыпы адукацыі і выхавання

Адукацыя і выхаванне ажыццяўляюцца ў Беларусі, зыходзячы з прагрэсіўных накірункаў развіцця асобы, грамадства і дзяржавы, гарманічнага спалучэння іх інтарэсаў і грунтуюцца на выкладзеных фундаментальных падставах. Іх мэта — стварэнне ўмоў для станаўлення і развіцця адукаванай, творчай, маральнай, нацыянальна свядомай і фізічна здаровай асобы з лепшымі якасцямі чалавека, грамадзяніна, працаўніка і сем'яніна.

Ажыццяўленне гэтай мэты будзе спрыяць нацыянальнаму адраджэнню, павышэнню інтэлектуальна-творчага патэнцыялу народа, умацаванню сям'і, выхаванню падрастаючага пакалення і ўсіх жыхароў рэспублікі як прадстаўнікоў пэўнай нацыі і зямной цывілізацыі, як грамадзян сваёй Айчыны, як працаўнікоў—стваральнікаў матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, як мужчын і жанчын—дастойных і адказных бацькоў і выхавацеляў.

Важнымі мэтавымі функцыямі нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання з'яўляюцца:

— забеспячэнне даступнасці ўсіх відаў адукацыі і выхавання, раскрыцця і развіцця творчых магчымасцей чалавека любога ўзросту;

— стварэнне ўмоў для свабоднага выбару форм навучання і выхавання, камбінацыі асноўных і дадатковых прадметаў, узроўняў складанасці матэрыялу і тэмпаў яго засваення;

— падтрымка недзяржаўных устаноў адукацыі—грамадскіх, кааператыўных, прыватных;

— садзейнічанне сацыяльнай абароне дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, сірот, інвалідаў з маленства, дзяцей, якія не маюць апекі бацькоў;

— падтрымка ў адукацыі таленавітых, здольных дзяцей;

— забеспячэнне ўмоў для авалодання ўсімі жыхарамі рэспублікі дзяржаўнай і іншымі мовамі, экалагічнай, эканамічнай, юрыдычнай, камп'ютэрнай і псіхолага-педагагічнай пісьменнасцю;

— захаванне і памнажэнне інтэлектуальнай уласнасці і культурна-гістарычных каштоўнасцей беларускага народа, іншых нацыянальных супольнасцей рэспублікі;

— выкарыстанне і развіццё народнай педагогікі і рамёстваў, фальклору, нацыянальных традыцый, рытуалаў, абрадаў, звычаяў;

— развіццё навукова-тэхнічнай, вытворча-камерцыйнай і культурнай дзейнасці навучальных устаноў;

— падтрымка самаадукацыі і самавыхавання, інтэлектуальных і духоўных імкненняў асобы;

— выхаванне паважлівых адносін, сацыяльна-псіхалагічнай гатоўнасці да сямейнага жыцця;

— дапамога ўсталяванню ў грамадстве гуманістычных адносін і міласэрнасці;

— выхаванне павагі да палітычнага плюралізму і дэмакратыі.

Рэспубліка Беларусь ажыццяўляе дзяржаўную палітыку ў галіне адукацыі на наступных прынцыпах:

— прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей, пакладзеных у аснову выхавання чалавека, дасведчанага ў сусветнай гісторыі, паважлівага да палітычных, эканамічных і сацыяльных правоў, культуры і традыцый іншых народаў;

— нацыянальна-культурная аснова з шырокім і глыбокім далучэннем да скарбаў духоўнай і матэрыяльнай культуры з мэтай развіцця самасвядомасці і выхавання лепшых якасцей характару беларусаў;

— навуковасць, што забяспечвае дакладнасць і пастаяннае ўдасканаленне зместу, форм і метадаў навучання адпаведна зменлівасці парадыгмаў навук, выпуску тэхнікі найноўшых пакаленняў і інавацый у тэхналогіях;

— арыентацыя на сусветны ўзровень адукацыі, вывучэнне і выкарыстанне вопыту развітых краін, перайманне лепшых стандартаў і дасягненняў адукацыі, забеспячэнне ўмоў прызнання за мяжой эквівалентнасці дакументаў, якія выдаюцца беларускімі навучальнымі ўстановамі;

— гуманізм, апеляванне да канкрэтнага чалавека, увага да матывацыйна-спажывецкай сферы асобы, яе схільнасцей, інтарэсаў, магчымасцей свабоднай самарэалізацыі, а таксама культывацыя ўзаемаадносін супрацоўніцтва, клопату, заахвочванне і падтрымка імкненняў людзей да паляпшэння жыцця грамадства;

— сувязь з грамадскай практыкай, якая гарантуе ўзаемадзеянне адукацыі з вытворчасцю і сацыякультурнай рэчаіснасцю і спрыяе сацыялізацыі асобы, яе адаптацыі да розных форм жыццядзейнасці грамадства;

— экалагічная накіраванасць, закліканая садзейнічаць усведамленню навучэнцамі сваёй ролі і месца ў навакольным асяроддзі, выхаванню ашчадных адносін да прыроды, жывёльнага і расліннага свету, падрыхтоўцы экалагічна дасведчаных рабочых і спецыялістаў;

— адзінства навучання, духоўнага і фізічнага ўдасканалення, якое дапамагае цэласнаму развіццю чалавека, яго цялесных, сацыяльных і культурных сіл, на падставе чаго адбываецца арганічнае спалучэнне асноўных элементаў светапогляду: ведаў, маральна-каштоўнасных арыентацый, эмацыянальна-паводзінскіх адносін;

— дэмакратызм, праз які ўсталёўваюцца павага і давер паміж педагогамі, навучэнцамі і бацькамі, пашыраюцца іх правы і ўзрастае ўсвядомленая адказнасць, дэцэнтралізуецца кіраванне і дасягаецца самастойнасць навучальных устаноў пры забеспячэнні імі дзяржаўных патрабаванняў да адукацыі;

— свецкі характар, што адначасова забяспечвае грамадзянскае навучанне і выхаванне ў дзяржаўных навучальных установах і ахову свабоды сумлення і веравызнання чалавека;

— заахвочванне адукаванасці, стварэнне ўмоў для раскрыцця талентаў і здольнасцей людзей, выкарыстання іх на карысць грамадству і асобе;

— абавязковасць базавай адукацыі ў якасці вызначальнага ўзроўню навучання і выхавання, неабходнага і дастатковага для выбару далейшых шляхоў атрымання агульнай ці прафесійнай адукацыі, а ў асобных выпадках—і для пачатку самастойнай працоўнай дзейнасці.

У якасці вызначальнай канцэптуальнай асновы здзяйснення ўказаных мэт, прынцыпаў і вынікаючых з іх надзённых задач нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання выступае перавод яе з рэжыму стандартызаванага функцыяніравання пад адміністрацыйна-камандным кіраўніцтвам у рэжым пастаяннага самаразвіцця на творчых пачатках у адпаведнасці з узрастаючымі запатрабаваннямі асобы і грамадства пры ўмове прадастаўлення навучальным установам і педагогам свабоды ў выбары форм і метадаў навучальна-выхаваўчага працэсу і адначасовага павышэння іх адказнасці за яго вынікі.

# РАЗДЗЕЛ II

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СІСТЭМА БЕСПЕРАПЫННАЙ АДУКАЦЫІ І ВЫХАВАННЯ

Дынамізм развіцця цывілізацыі, імклівыя змены ў тэхніцы і тэхналогіях, інтэлектуалізацыя працы, узмацненне плыні новай інфармацыі, павышэнне сацыяльнай ролі асобы, яе матэрыяльных і духоўных запытаў—усё гэта патрабуе не толькі пэўных ведаў і ўменняў, неабходных для прафесійна-працоўнай і грамадскай дзейнасці, выканання сямейных абавязкаў, але і пастаяннага развіцця, творчага абнаўлення і ўдасканалення асобы на працягу ўсяго жыцця. У гэтым заключаецца сутнасць бесперапыннай адукацыі і выхавання.

Дзеля задавальнення адукацыйна-выхаваўчых патрэб насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь ствараецца нацыянальная сістэма бесперапыннай адукацыі і выхавання, якая мае наступныя асноўныя кампаненты:

— агульная адукацыя;
— прафесійная адукацыя;
— сямейнае выхаванне;
— грамадскае выхаванне;
— самаадукацыя і самавыхаванне.

## 2.1. Агульная адукацыя

Агульная адукацыя ўяўляе працэс і вынік авалодання агульнанавуковымі звесткамі пра прыроду, грамадства і чалавека, агульнакультурнымі ведамі і ўменнямі, а таксама выяўлення і развіцця здольнасцей, выхавання творчай, маральнай і фізічна здаровай асобы. Агульная адукацыя з'яўляецца асновай фарміравання светапогляду і агульнага развіцця чалавека, яго прафесійнай падрыхтоўкі.

Ідэя аднолькавай і абавязковай для ўсіх агульнай адукацыі, якая на працягу дзесяцігоддзяў дамініравала ў грамадстве, практычна сябе вычарпала. Яна мела сэнс пры ліквідацыі непісьменнасці, забеспячэнні пачатковай адукацыі. Усеагульная сярэдняя адукацыя стала ў нашай краіне на сучасным этапе немагчымай з-за аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын. Сярод іх—незапатрабаванасць грамадствам такога ўзроўню адукацыі ад усіх яго членаў і няроўнасць здольнасцей і магчымасцей як вучняў, так і настаўнікаў; адсутнасць неабходных сродкаў, навукова-метадычнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і інш. Аналіз праблемы сведчыць, што на розных этапах развіцця грамадства існуе пэўны сацыяльна неабходны і агульнадаступны ўзровень адукацыі. Для Беларусі ў цяперашні час ён адпавядае дзевяцігадовай базавай адукацыі, якая павінна гарантавацца дзяржавай, з'яўляцца для кожнага абавязковай і бясплатнай.

Своеасаблівы фундамент агульнай адукацыі—сямейнае і грамадскае дашкольнае выхаванне, а таксама навучанне ў першых чатырох класах агульнаадукацыйнай школы. Улічваючы, што пачатковая адукацыя сёння не мае самастойнага практычнага значэння, не фіксуецца юрыдычна ніякім дакументам, пачатковыя школы перадаюцца ў якасці класаў ці класаў-камплектаў бліжэйшым базавым ці сярэднім школам. Гэта паспрыяе паляпшэнню кадравага, метадычнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння пачатковых класаў. Замест паняцця «пачатковая адукацыя» будзе ўжывацца «пачатковае навучанне», якое ажыццяўляецца ў сям'і, дашкольных установах і I—IV класах.

Новыя псіхалагічныя і фізіёлага-гігіенічныя даследаванні сведчаць, што прыкладна да 10 гадоў у дзіцяці фарміруюцца тыя здольнасці, якія дазваляюць яму засвоіць значны інтэлектуальны матэрыял і выпрацаваць адпаведныя маральна-псіхалагічныя ўстаноўкі. Таму мэты і задачы пачатковага навучання нельга зводзіць толькі да чытання, пісьма і лічэння. Галоўнае значэнне на гэтай ступені набываюць выхаванне і развіццё асобы дзіцяці, авалоданне першапачатковымі ведамі аб прыродзе, грамадстве і чалавеку (у асноўным на культурна-гістарычным матэрыяле роднага краю), навыкамі навучальнай і агульнапрацоўнай дзейнасці, культурай мовы, міжасобасных зносін, асновамі асабістай гігіены і здаровага ладу жыцця. Пры гэтым надзвычай важна, каб была забяспечана пераемнасць у выхаванні, навучанні і развіцці дашкольнікаў і малодшых школьнікаў пры пераходзе ад гульневай да навучальнай дзейнасці. У гэтым плане заслугоўвае ўвагі вопыт адкрыцця першых класаў у дзіцячых дашкольных установах і стварэння навучальна-выхаваўчых устаноў тыпу «школа—дзіцячы сад». Дыферэнцыяцыя навучальна-выхаваўчай дзейнасці малодшых вучняў дасягаецца галоўным чынам за кошт варыятыўнасці самога працэсу навучання: тэмпу вывучэння матэрыялу, прадастаўлення дзецям шырокіх магчымасцей выбару віду дзейнасці, адаптацыі навучальных заданняў да індывідуальных магчымасцей, арганізацыі класаў і груп выроўнівання з улікам рэкамендацый псіхолагаў і медыцынскіх работнікаў.

Агульная адукацыя мае тры ўзроўні: базавы, сярэдні і вышэйшы.

Базавая агульная адукацыя (9 класаў) з'яўляецца абавязковай для ўсіх дзяцей (за выключэннем тых, якія не ў стане вучыцца па медыцынскіх паказаннях). Здаровае дзіця можа быць прынята ў школу ў асноўным з 6 гадоў. Аднак у кожным канкрэтным выпадку гэта пытанне вырашаецца спецыялістамі (урачамі, псіхолагамі, педагогамі) сумесна з бацькамі. Важнейшыя функцыі базавай адукацыі—развіццё творчых якасцей асобы, выхаванне нацыянальнай самасвядомасці і агульначалавечай маральнасці. Яна павінна даваць сістэматычныя веды, прывіваць уменні і навыкі, неабходныя для працягу агульнай ці пачатку прафесійнай адукацыі і ўключэння ў жыццё грамадства. На гэтай ступені адукацыі выяўляюцца тыпалагічныя характарыстыкі асобы, развіваюцца здольнасці, інтарэсы, каштоўнасныя арыентацыі. Дыягностыка гэтых якасцей (а пры неабходнасці і іх актыўная карэкцыя) заклікана дапамагчы самавызначэнню вучня, выбару ім накірунку сваёй далейшай навучальнай ці працоўнай дзейнасці. У сувязі з гэтым неабходна забяспечыць лагічную завершанасць зместу агульнай адукацыі базавага ўзроўню.

Сярэдняя агульная адукацыя (11—12 класаў) павінна адпавядаць такому ўзроўню ведаў, уменняў, навыкаў і развіцця, якія сведчыць аб сфарміраванасці паўнапраўнага і адказнага грамадзяніна, наяўнасці ў яго:

— прыродазнаўчых і матэматычных ведаў, агульнанавуковых уяўленняў аб Сусвеце, аб прыродзе роднага краю, аб выніках катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, рэгіянальных і глабальных экалагічных праблемах;

— звестак аб гісторыі свайго народа, рэспублікі, вобласці, раёна, горада, вёскі, навучальнай установы;

— ведаў аб асноўных заканамернасцях развіцця чалавецтва, пра сябе як пра чалавека-асобу і грамадзяніна з пэўнымі правамі і адказнасцю пры ўзаемаадносінах з людзьмі, сям'ёй, дзяржавай і навакольным асяроддзем;

— уяўленняў аб розных сферах чалавечай дзейнасці, сучасных і перспектыўных вытворчых тэхналогіях, а таксама неабходных ведаў, першасных працоўных уменняў і навыкаў, псіхалагічнай гатоўнасці да авалодання прафесіяй і актыўнай працы;

— агульнакультурных ведаў і ўменняў.

Вышэйшая агульная адукацыя, з аднаго боку, з'яўляецца базай для вышэйшай прафесійнай адукацыі, а з другога—мае самастойнае значэнне, таму што забяспечвае найбольш высокі ўзровень агульнанавуковых ведаў, інтэлектульнага і агульнакультурнага развіцця.

Пры фарміраванні зместу адукацыі для ўсіх тыпаў навучальных устаноў трэба ўлічваць, што агульная адукацыя з'яўляецца асноўным кампанентам, які забяспечвае фундаментальнасць і гуманітарны характар навучання і выхавання.

Змест базавай і сярэдняй агульнай адукацыі ўключае агульнадзяржаўны, школьны (рэгіянальны) і індывідуальны кампаненты. Агульнадзяржаўны кампанент задае абавязковы стандарт пэўнага віду і ўзроўню адукацыі. Школьны (рэгіянальны) кампанент устанаўліваецца з улікам геаграфічнага становішча, сацыяльна-эканамічных абставін і канкрэтызуе ў рамках вызначаных агульных аб'ёмаў навучальнай нагрузкі курсы (прадметы) па выбару. Індывідуальны кампанент вызначаецца самім вучнем або паводле пагаднення з бацькамі ў рамках наяўных магчымасцей. Разам з выбарам курсаў, прадметаў, факультатываў сюды можа ўваходзіць індывідуальнае навучанне народным промыслам або нескладаным прафесіям і інш.

Базавая і сярэдняя агульная адукацыя забяспечваецца адпаведна базавымі або сярэднімі агульнаадукацыйнымі школамі. Сярэднюю агульную адукацыю даюць таксама гімназіі, ліцэі і адпаведныя вучылішчы, тэхнікумы і каледжы.

Змест вышэйшай агульнай адукацыі мае тры кампаненты: агульнадзяржаўны (з арыентацыяй на міжнародныя стандарты), галіновы (з арыентацыяй на сферу прафесійна-працоўнай дзейнасці) і індывідуальны (па выбары студэнта). Вышэйшая агульная адукацыя набываецца ва універсітэтах, акадэміях, інстытутах, вышэйшых каледжах і іншых прыроўненых да іх вышэйшых навучальных установах.

## 2.2. Прафесійная адукацыя

Прафесійная адукацыя ўяўляе працэс і вынік авалодання на пэўным узроўні ведамі, уменнямі і навыкамі прафесійна-працоўнай дзейнасці, развіцця спецыяльных здольнасцей і выхавання якасцей асобы, неабходных для гэтай дзейнасці. Яна грунтуецца на адпаведным узроўні агульнай адукацыі, у працэсе якой ажыццяўляюцца ранняя дыягностыка і развіццё агульных і спецыяльных здольнасцей, а таксама прафесійная арыентацыя моладзі.

Сістэма бесперапыннай прафесійнай адукацыі ўключае:

прафесійны адбор; падрыхтоўку кадраў масавых прафесій і малодшага абслуговага персаналу; падрыхтоўку высокакваліфікаваных рабочых і спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі; падрыхтоўку спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі; падрыхтоўку навуковых і навукова-педагагічных кадраў; павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку рабочых і спецыялістаў.

Прафесійны адбор — гэта вызначэнне адпаведнасці агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, псіхафізіялагічных даных і спецыяльных здольнасцей чалавека патрабаванням, што прад'яўляе спецыфіка канкрэтнай прафесійна-працоўнай дзейнасці. У рэспубліцы неабходна стварыць развітую сетку ўстаноў і арганізацый, дыягнастычных цэнтраў, якія забяспечвалі б насельніцтва паслугамі па прафарыентацыі і прафкансультацыі. Прафесійным адборам займаюцца навучальныя ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі.

Прафесійная адукацыя мае пачатковы, базавы, сярэдні і вышэйшы ўзроўні.

Пачатковая прафесійная адукацыя забяспечвае падрыхтоўку рабочых масавых нескладаных прафесій і малодшага абслуговага персаналу. Яе набываюць у навучальна-вытворчых і навучальна-курсавых камбінатах, прафесійных цэнтрах, прафіліраваных (рэальных) класах і школах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах і іншых навучальных установах, на прадпрыемствах.

Базавая прафесійная адукацыя з'яўляецца асноўным відам падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых і абслуговага персаналу па складаных і сумешчаных прафесіях шырокага профілю ці па групах прафесій. Базавую прафесійную адукацыю атрымліваюць у прафесійна-тэхнічных навучальных установах, гімназіях, ліцэях і сярэдніх агульнаадукацыйных школах з прадоўжаным (на 1—2 гады) тэрмінам навучання.

Сярэдняя прафесійная адукацыя забяспечвае падрыхтоўку высокакваліфікаваных рабочых па асабліва складаных прафесіях ці па групах прафесій і спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі і ажыццяўляецца ў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

Пачатковая, базавая і сярэдняя прафесійная адукацыя грунтуецца на базавым ці сярэднім узроўні агульнай адукацыі. У асобных выпадках ствараюцца ўмовы для атрымання пачатковай прафесійнай адукацыі асобамі, якія не маюць базавай агульнай адукацыі.

Вышэйшая прафесійная адукацыя грунтуецца на базе вышэйшай агульнай (агульнанавуковай) адукацыі. У падрыхтоўку спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі ўводзіцца дыферэнцыяцыя, якая прадугледжвае розныя ступені кваліфікацыі. У залежнасці ад здольнасцей і тэрмінаў навучання рыхтуюцца спецыялісты з вышэйшай адукацыяй і дыпламаваныя спецыялісты. Яны маюць права ў вызначаным парадку прадоўжыць навучанне, здаць дадатковыя экзамены, абараніць дыпломную ці навуковую працу (праект) і атрымаць першыя навуковыя ступені—адпаведна бакалаўра і магістра. Адзінства навучальнага працэсу і навуковай (творчай) дзейнасці—важная ўмова падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі. Таму ва ўсіх ВНУ ствараюцца навуковыя (творчыя) і навукова-вытворчыя падраздзяленні, для работы ў якіх прыцягваюцца студэнты і выкладчыкі. Студэнты малодшых курсаў ВНУ ў адпаведнасці з іх здольнасцямі і пажаданнямі могуць пераводзіцца ў адпаведныя навучальныя ўстановы для атрымання сярэдняй прафесійнай адукацыі.

Падрыхтоўка навуковых і навукова-педагагічных кадраў разам з традыцыйнымі формамі вядзецца праз мэтавае фінансаванне канкрэтных тэм, заяўленых для даследавання саіскальнікамі і іх навуковымі кіраўнікамі, за кошт бюджэтных крыніц, зацікаўленых арганізацый, разнастайных фондаў. Асноўная частка дысертацый павінна з'яўляцца натуральным вынікам даследчай працы, якую выконвае саіскальнік у рамках тэматыкі навуковай установы (кафедры). Саіскальнікі пры гэтым займаюць пасады навуковых супрацоўнікаў. З мэтай інтэграцыі Беларусі ў сусветную навукова-адукацыйную прастору патрэбна сістэму навуковых ступеняў і вучоных званняў, а таксама парадак іх прысуджэння прывесці ў адпаведнасць з замежнымі аналагамі.

Павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка кадраў ажыццяўляюцца для атрымання дадатковых прафесійных ведаў і навыкаў, асваення перадавога вопыту і набыцця новых прафесій і спецыяльнасцей у сувязі са структурнымі зменамі ў вытворчасці і сацыяльнай сферы, а таксама з улікам індывідуальных патрэб грамадзян. Гэта работа, як правіла, праводзіцца на базе навучальных устаноў, дзе рыхтуюцца адпаведныя кадры, а таксама непасрэдна на вытворчасці.

Для кардынальнага паляпшэння стану прафесійнай адукацыі ўсіх узроўняў неабходна вырашыць наступныя пытанні:

— сумесна з зацікаўленымі прадпрыемствамі і арганізацыямі распрацаваць пералік прафесій і спецыяльнасцей, новыя кваліфікацыйныя патрабаванні, якія адпавядалі б сучасным рэаліям і тэндэнцыям развіцця эканомікі і сацыяльнай сферы рэспублікі;

— правесці сертыфікацыю ўсіх прафесійных навучальных устаноў, упарадкаваць іх сетку;

— стварыць сістэму абнаўлення навучальных планаў і праграм, навукова-метадычнага забеспячэння на аснове вывучэння і прагназіравання змен у эканоміцы і грамадстве, мадэліравання дзейнасці будучых рабочых і спецыялістаў;

— забяспечыць арганічную інтэграцыю прафесійнай адукацыі з вытворчасцю і навукай, павысіць у гэтым ролю прафесійных аб'яднанняў вучоных і спецыялістаў (Акадэміі навук, інжынернай, агратэхнічнай і іншых галіновых акадэмій і г. д.);

— пашырыць новыя формы працоўнага навучання і прафесійнай падрыхтоўкі: вучнёўскія кааператывы; малыя прадпрыемствы; політэхнічныя цэнтры; рэальныя школы (класы); тэхнічныя ліцэі; рэгіянальныя прафесійныя цэнтры і комплексы; камбінаваныя навучальныя ўстановы тыпу: школа—ПТВ, ПТВ—тэхнікум, ПТВ—тэхнікум—ВНУ, навучальна-навукова-вытворчае аб'яднанне; дуальныя сістэмы падрыхтоўкі рабочых і спецыялістаў, з тэарэтычным навучаннем у навучальнай установе, а вытворчым—на прадпрыемстве.

## 2.3. Сямейнае выхаванне

Вядучая роля ў выхаванні маладога пакалення належыць сям'і, прычым гэта тычыцца не толькі дзяцей дашкольнага ўзросту. Сям'я стварае чалавеку неабходныя ўмовы для жыццядзейнасці, забяспечвае яго абароненасць пры разнастайных акалічнасцях. Сямейныя традыцыі адыгрываюць вызначальную ролю ў выбары прафесіі. Бацькі, бабулі, дзядулі — заўсёды першыя дарадцы і памочнікі маладых пры стварэнні сям'і, доглядзе дзяцей. У першую чаргу да сваякоў звяртаюцца пры матэрыяльных, псіхалагічных і іншых цяжкасцях. Усё гэта аб'ектыўна стварае сітуацыю не фармальнай, а натуральнай, добраахвотнай узаемазалежнасці і ўзаемаадказнасці дарослых і дзяцей. Бацькі і сваякі аказваюць выхаваўчы ўплыў на чалавека на працягу ўсяго яго жыцця. Таму трэба стварыць спрыяльныя ўмовы для поўнай рэалізацыі патэнцыяльных выхаваўчых магчымасцей сям'і. З гэтай мэтай:

— дзяржава і грамадства ўсімі даступнымі сродкамі (заканадаўча, матэрыяльна, маральна) павінны садзейнічаць рэальнаму павышэнню статуса сям'і як асноўнай ячэйкі грамадства і першай школы дзіцяці, стварэнню ў сем'ях неабходнага псіхолага-педагагічнага клімату, умацаванню фінансава-матэрыяльнага становішча шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў, заахвочванню бацькоў, якія сумленна выконваюць свой абавязак. Адначасова трэба ўзмацніць адказнасць (маральную, матэрыяльную, адміністрацыйную, крымінальную) бацькоў за выхаванне дзяцей і захаванне іх здароўя;

— мэтазгодна патрабаваць ад тых, хто збіраецца ўступіць у шлюб, пацвярджэння аб стане здароўя, а таксама арганізаваць адпаведную падрыхтоўку моладзі да сямейнага жыцця і выхавання дзяцей;

— забяспечыць выданне дапаможнікаў, часопісаў, рэгулярнае правядзенне тэле- і радыёперадач па псіхолага-педагагічных і санітарна-гігіенічных праблемах сямейнага жыцця;

— распрацаваць рэкамендацыі па сямейным выхаванні і развіцці дзяцей, выкананне якіх будзе садзейнічаць спрыяльнаму ўваходжанню дзіцяці ў дашкольную ўстанову, падрыхтоўцы да школы. Ажыццяўляць рэгулярную праверку санітарна-гігіенічнага стану кватэр (дамоў), дзе пражываюць дзеці, даваць бацькам парады, рэкамендацыі;

— стварыць у мікрараёнах гарадоў і вёсках бацькоўскія (сямейныя) клубы, якія пасадзейнічаюць паляпшэнню кантактаў паміж людзьмі, развіццю добрых узаемаадносін дзяцей і дарослых;

— арганізаваць падрыхтоўку спецыялістаў па сямейным (дамашнім) выхаванні і навучанні (гувернёраў).

Для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, неабходна адкрываць у дастатковай колькасці дзіцячыя дамы сямейнага тыпу, аказваць ім усебаковую матэрыяльную і маральную падтрымку, праводзіць спецыяльную падрыхтоўку бацькоў-выхавацеляў, дапамагаць ім у вырашэнні псіхолага-педагагічных і медыцынскіх пытанняў.

Па меры выспявання адпаведных сацыяльна-эканамічных умоў, пры якіх грамадства атрымае магчымасць поўнасцю матэрыяльна забяспечваць выхаваўчую працу маці (ці іншых дарослых членаў сям'і) да паступлення дзяцей у школу, узрастае неабходнасць не толькі ва ўсебаковай псіхолага-педагагічнай і гігіенічнай падрыхтоўцы будучых бацькоў, але і ў пастаяннай індывідуалізаванай псіхолага-педагагічнай дапамозе і падтрымцы з боку кваліфікаваных спецыялістаў. Яны павінны не толькі дапамагаць у выхаванні маленькіх дзяцей і падлеткаў, але і наладжваць гарманічныя ўзаемаадносіны паміж мужам і жонкай і іншымі членамі сям'і, а таксама ажыццяўляць раннюю дыягностыку здольнасцей і талентаў, прафкансультацыю моладзі і дарослых.

Сямейнае выхаванне як неад'емная частка нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання павінна атрымаць адпаведнае адлюстраванне ў заканадаўстве.

## 2.4. Грамадскае выхаванне

Грамадскае выхаванне ахоплівае дзяржаўна-грамадскае дашкольнае выхаванне, выхаванне ў навучальных установах, у тым ліку пазаўрочнае (пазакласнае і пазашкольнае), а таксама выхаванне пры ўдзеле грамадскасці і праз сродкі масавай інфармацыі.

Дашкольнае выхаванне мае на мэце станаўленне і развіццё асобы дзіцяці з улікам стану яго здароўя, узроставых і індывідуальных асаблівасцей. Асноўныя задачы дзяржаўна-грамадскай сістэмы дашкольнага выхавання наступныя:

— аказанне дапамогі сям'і ў выхаванні дзяцей;

— ахова і ўмацаванне здароўя дзяцей, абарона іх ад неспрыяльнага экалагічнага ўплыву;

— фарміраванне асноватворных якасцей асобы, у тым ліку маральнасці і нацыянальнай самасвядомасці;

— забеспячэнне пераемнасці ў змесце і формах арганізацыі жыццядзейнасці дзяцей паміж сям'ёй, дашкольнай установай і школай;

— ажыццяўленне ранняй дыягностыкі задаткаў і здольнасцей дзяцей і стварэнне ўмоў для іх мэтанакіраванага развіцця (групы камплектуюцца па інтарэсах да прадметна-практычнай дзейнасці з правам свабоднага пераходу з адной у другую або па ўзросту, але з абавязковым выдзяленнем часу для заняткаў па інтарэсах пад кіраўніцтвам выхавацеля з дадатковай прафесійна-профільнай падрыхтоўкай);

— усебаковая падрыхтоўка дашкольніка да вучобы ў школе.

Грамадскае дашкольнае выхаванне дзяцей з улікам іх псіхафізіялагічнага развіцця пачынаецца ў асноўным з трохгадовага ўзросту. У асобных выпадках яно ахоплівае дзяцей больш ранняга ўзросту. Ажыццяўляецца ранняя псіхафункцыянальная дыягностыка з мэтай прафілактыкі і своечасовага лячэння дзяцей, а таксама накіравання іх у дашкольныя ўстановы адпаведнага тыпу. Бацькі маюць права выбару дашкольнай установы, рэжыму яе працы.

Па меры стварэння ўмоў для сямейнага выхавання дзяцей дашкольныя ўстановы будуць ператварацца ў метадычна-кансультацыйныя цэнтры дашкольнага выхавання і задавальняць патрэбы бацькоў у часовым размяшчэнні дзяцей, а таксама стануць выконваць функцыі пазашкольных устаноў у рабоце з дзецьмі адпаведнага ўзросту.

Выхаванне ў навучальных установах адбываецца, перш за ўсё, у працэсе навучання. Гэтаму павінны спрыяць змест і форма вывучэння матэрыялу, маральныя якасці і адпаведная прафесійная падрыхтоўка настаўнікаў. Неабходна зрабіць так, каб узроўні адукаванасці і выхаванасці былі адэкватнымі.

Для выяўлення і развіцця здольнасцей, задавальнення разнабаковых інтарэсаў і арганізацыі вольнага часу вядзецца пазаўрочнае (пазакласнае і пазашкольнае) выхаванне дзяцей і падлеткаў. Пры ўзвядзенні мікрараёнаў гарадоў і сельскіх населеных пунктаў, праектаванні школ і іншых навучальна-выхаваўчых устаноў прадугледжваюцца неабходныя будынкі (памяшканні) для разнастайнай пазаўрочнай выхаваўчай работы з дзецьмі і падлеткамі непасрэдна ў месцах іх пражывання. Для пазаўрочнага выхавання вучняў, сумесных заняткаў па інтарэсах дзяцей і бацькоў, сямейнага адпачынку вечарамі і ў выхадныя дні прадастаўляюцца (пры неабходнасці за пэўную плату) спартыўныя залы, плавальныя басейны, стралковыя ціры, майстэрні, музычныя інструменты і г.д. Актавыя залы ў пазначаны час выкарыстоўваюцца як кінаканцэртныя, сталовыя — як кафэ-клубы вучнёўскай моладзі.

Новы змест грамадска-палітычнага жыцця, актывізацыя ўдзелу грамадзян у дзейнасці органаў улады і самакіравання, пашырэнне міжнароднага эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва патрабуюць больш высокай агульнай культуры насельніцтва, умення весці дыскусіі і перагаворы, наладжваць тактоўныя адносіны паміж калегамі, кіраўнікамі і падначаленымі, а таксама экалагічнай, эканамічнай, юрыдычнай і камп'ютэрнай пісьменнасці, ведання асноў псіхалогіі і педагогікі, замежных моў і г. д. Для вырашэння гэтых задач патрэбна:

— забяспечыць псіхолага-педагагічную асвету насельніцтва рэспублікі праз увядзенне ва ўсе навучальныя ўстановы асноўных альбо факультатыўных (у залежнасці ад спецыяльнасці) курсаў па псіхалогіі, педагогіцы, этыцы, эстэтыцы і г.д.;

— вызначыць пералік пасад, для якіх неабходнай і абавязковай з'яўляецца адпаведная псіхолага-педагагічная падрыхтоўка;

— мець практычных псіхолагаў, сацыяльных педагогаў у навучальных установах, на прадпрыемствах і ў арганізацыях, а таксама ствараць тэрытарыяльныя псіхадыягнастычныя і кансультацыйныя службы;

— у сродках масавай інфармацыі арганізаваць рэгулярныя публікацыі па псіхолага-педагагічных пытаннях, заахвочваць у гэтым дзеячаў літаратуры і мастацтва, якія садзейнічаюць псіхолага-педагагічнай асвеце і выхаванню жыхароў рэспублікі.

Улічваючы вялікую ролю грамадскага выхавання ў фарміраванні і развіцці асобы, неабходна ажыццяўляць дзяржаўна-грамадскі кантроль за мастацкім і маральна-этычным узроўнем кінафільмаў, спектакляў, тэле- і радыёперадач, друкаваных твораў, асабліва прызначаных для дзяцей і падлеткаў, павысіць адказнасць за гэта адпаведных міністэрстваў і ведамстваў, адукацыйна-выхаваўчых, культурна-асветных і іншых устаноў сацыяльна-культурнай сферы.

З мэтай забеспячэння на дзяржаўным узроўні разгортвання работы па значным павышэнні выхаваўчага патэнцыялу і ўздыму духоўнасці грамадства ператварыць Міністэрства адукацыі ў Міністэрства адукацыі і выхавання з пашырэннем яго функцый на вырашэнне надзённых праблем сацыяльнай псіхалогіі і педагогікі (падрыхтоўка спецыялістаў і навукова-метадычнае забеспячэнне выхавання ў сем'ях, на вытворчасці, у выхаваўча-працоўных установах, па месцы жыхарства і г.д.).

## 2.5. Самаадукацыя і самавыхаванне

Спалучэнне асабістага і грамадскага жыцця ператвараецца ў працэс усвядомлены. У гэтым адлюстроўваецца ўзаемасувязь развіцця чалавека і чалавецтва, асобы і грамадства, індывіда і калектыву. Больш таго, у сучасных умовах яднанне навучання і саманавучання, выхавання і самавыхавання становіцца прынцыпам сацыяльным, які распаўсюджваецца на ўсіх членаў грамадства. Яго рэалізацыя з'яўляецца важнай перадумовай паляпшэння адукаванасці і самазацвярджэння асобы, што пашырае магчымасці чалавека ў развіцці навукова-тэхнічнага і сацыяльнага прагрэсу, павышэнні прадукцыйнасці і якасці працы.

Самаадукацыя і самавыхаванне — найважнейшыя шляхі развіцця асобы, яе здольнасцей, таленту і самасвядомасці за кошт асабістых намаганняў. Таму агульнаадукацыйная і прафесійная школы павінны практычна і псіхалагічна рыхтаваць маладое пакаленне да работы па самаўдасканаленні на працягу ўсяго свядомага жыцця.

Асноўнымі паказчыкамі гатоўнасці да самаадукацыі і самавыхавання з'яўляюцца ўсвядомленая патрэба ў развіцці сваёй асобы, уласных здольнасцей; авалоданне новай справай або прафесіяй; устойлівасць дзейнасці па ўдасканаленні сваіх сіл і магчымасцей; высокі ўзровень развіцця волі (самарэгуляцыя паводзін і дзейнасці) і самаўсведамленне (аб'ектыўная самаацэнка, самакрытычнасць, патрабавальнасць да сябе); удасканаленне культуры разумовай і фізічнай працы на аснове спецыяльных прыёмаў і метадаў самавыхавання (самазагад, самазаахвочванне, самапакаранне, самаабавязацельствы, самакантроль і да т.п.).

У працэс самаадукацыі і самавыхавання ўваходзяць: усвядомленае імкненне да адпаведнасці станоўчаму прыкладу; супрацоўніцтва з педагогамі (саманавучанне і самаўдасканаленне); інтэлектуальнае самапазнанне і самастойная праца з кнігай пры адначасовым мэтанакіраваным развіцці памяці, мыслення і мовы; арганізацыя ўкладу жыцця ў адпаведнасці з планам самавыхавання; самадаследаванне магчымасцей і здольнасцей з наступнымі самапрактыкаваннямі, саматрэніроўкамі; аўтагенны трэнаж, самарэгуляцыя псіхічнага стану, працаздольнасці; прафесійнае самавыхаванне з арыентацыяй на ўзоры прафесійнай дзейнасці або яе ідэалы.

Самаадукацыя і самавыхаванне грунтуюцца на пэўнай псіхалагічнай падрыхтоўцы з улікам узроставага развіцця магчымасцей і асаблівасцей выхаванцаў. У адпаведнасці з гэтым мэтазгодна пры стварэнні новых навучальных планаў і праграм прадугледзець у іх паслядоўную выпрацоўку ў вучняў і студэнтаў уменняў і навыкаў самаадукацыі і самавыхавання.

Пераарыентацыя навучання з інфарматыўнага тыпу на творча-дзейнасны мае на мэце пашырэнне форм самастойнай працы і самаадукацыі. Навучальным установам належыць стымуляваць самаадукацыйную дзейнасць навучэнцаў, ажыццяўляць кіраўніцтва ёю, праводзіць кансультацыі, забяспечваць неабходныя ўмовы ў бібліятэках, лабараторыях. Гэтаму могуць эфектыўна спрыяць і сродкі масавай інфармацыі.

Дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі павінны стварыць жыхарам рэспублікі матэрыяльныя ўмовы і ўвесці маральныя стымулы для самаадукацыі і самавыхавання, таму што тут супадаюць інтарэсы асобы, вытворчасці і грамадства.

# РАЗДЗЕЛ III

# УМОВЫ ЭФЕКТЫЎНАГА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ АДУКАЦЫІ І ВЫХАВАННЯ

Нацыянальная сістэма адукацыі і выхавання будзе дзейнічаць вынікова толькі пры стварэнні адпаведных кадравых, навукова-метадычных, фінансава-матэрыяльных, арганізацыйна-педагагічных і прававых умоў.

## 3.1. Педагагічныя кадры

Вызначальнай умовай функцыяніравання нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання з'яўляецца забеспячэнне яе педагагічнымі кадрамі, якія маюць адпаведную прафесійную падрыхтоўку і належныя маральныя якасці.

Высокі ўзровень падрыхтоўкі педагагічных кадраў дасягаецца стварэннем сістэмы бесперапыннай педагагічнай адукацыі.

Пашырэнне ў бліжэйшыя гады прыёму на педагагічныя спецыяльнасці навучальных устаноў (пры ўмове апераджальнага развіцця іх матэрыяльна-тэхнічнай базы і кадравага забеспячэння) адпавядала б новай сацыяльнай палітыцы, арыентаванай на развіццё асобы, павысіла б выхаваўчы патэнцыял грамадства. У першую чаргу трэба пашырыць падрыхтоўку псіхолагаў і сацыяльных педагогаў, а таксама настаўнікаў па інтэграваных прадметах, асабліва для сельскіх малакамплектных школ. Студэнтам неабходна прадаставіць права выбару пашыранага профілю падрыхтоўкі з улікам іх інтарэсаў, здольнасцей і месца будучай працы.

Падрыхтоўка настаўнікаў і выхавацеляў павінна ажыццяўляцца ў асноўным па заказах мясцовых органаў адукацыі, якім на гэта выдзяляюцца бюджэтныя сродкі. Акрамя таго, педагагічныя кадры могуць рыхтавацца па заказах і за кошт сродкаў міністэрстваў, ведамстваў, навучальных устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый, фондаў і прыватных асоб.

З мэтай забеспячэння педагагічнымі кадрамі сельскіх школ і асабліва школ, якія размешчаны ў раёнах радыеактыўнага забруджвання, уводзіцца кантрактная (на добраахвотных пачатках) сістэма прыёму ў навучальныя ўстановы. Пры гэтым прадугледжваюцца з боку органаў адукацыі дадатковая аплата пры навучанні і сацыяльныя гарантыі па заканчэнні навучальнай установы, а з боку тых, хто вучыцца,—абавязацельствы па працы ў вызначаным раёне на працягу пэўнага тэрміну.

Мэтазгодна пашырыць падрыхтоўку педагогаў, у першую чаргу мужчын, за кошт сродкаў фонду занятасці з ліку асоб, якія маюць вышэйшую адукацыю і вызваляюцца з вытворчасці.

Адначасова трэба ўдасканаліць сістэму прафесійнай арыентацыі і адбору, пашырыць сетку педагагічных школ і класаў пры ВНУ, у тым ліку інтэрнатнага тыпу для сельскіх жыхароў, педагагічных гімназій, ліцэяў, каледжаў. Павышэнню якасці падрыхтоўкі кадраў могуць садзейнічаць распрацоўка і практычнае прымяненне прафесійнага тэсціравання, якое праводзіцца на розных стадыях прыёму на вучобу і падрыхтоўкі педагогаў, а таксама пашырэнне ўдзелу ў прафесійнай арыентацыі і адборы будучых педагогаў сярэдніх навучальных устаноў, павышэнне іх адказнасці за свае рэкамендацыі.

Змест падрыхтоўкі педагогаў патрэбна ўдасканальваць перш за ўсё за кошт паглыбленага вывучэння дысцыплін псіхолага-педагагічнага і агульнакультурнага цыкла, шырокага выкарыстання розных задач па аналізе рэальна магчымых педагагічных сітуацый, пераходу ад павучальнай і рэцэптурнай да гуманістычнай і творчай педагогікі. Неабходна больш увагі надаваць вывучэнню найноўшых псіхолага-педагагічных тэхналогій, метадаў педагагічнай дыягностыкі, практычнай арганізацыі навучальнага працэсу, сацыяльнага і сямейнага выхавання. Неабходным элементам падрыхтоўкі будучых настаўнікаў і выхавацеляў з'яўляецца іх практычная работа з дзецьмі і падлеткамі на працягу ўсяго перыяду навучання. Абавязковым для падрыхтоўкі педагогаў з'яўляецца таксама авалоданне беларускай мовай, асновамі нацыянальнай культуры.

Росту прафесійнага ўзроўню педагогаў будзе садзейнічаць увядзенне навуковых ступеняў бакалаўра і магістра, атрыманне якіх прадугледжвае абавязковую гуманітарную, у тым ліку псіхолага-педагагічную падрыхтоўку, удзел у атэстацыі на гэтыя ступені прадстаўнікоў прафесійных педагагічных аб'яднан-

няў і педагагічнай грамадскасці. Трэба юрыдычна вызначыць, што бакалаўры маюць права на выкладанне ў сярэдніх агульнаадукацыйных і прафесійных навучальных установах, а магістры—і ў вышэйшых.

Павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка педагагічных кадраў павінны стаць важнымі элементамі сістэмы бесперапыннай педагагічнай адукацыі і ажыццяўляцца ва універсітэтах, педагагічных інстытутах і іншых навучальных установах, дзе вядзецца асноўная падрыхтоўка гэтых кадраў. Пры такой сістэме, з аднаго боку, ВНУ набываюць найноўшы вопыт практычнай педагагічнай дзейнасці, бачаць свае поспехі і недахопы і на гэтай аснове ўдасканальваюць навучальна-выхаваўчы працэс, а з другога—забяспечваецца пераемнасць у станаўленні і пастаянным удасканаленні прафесійнага майстэрства педагогаў праз пашырэнне і абнаўленне іх навукова-тэарэтычнага кругагляду і метадычнага арсеналу, авалоданне дасягненнямі псіхолага-педагагічных навук, сусветным і айчынным вопытам педагогаў. У сувязі з гэтым універсітэты і пединстытуты павінны стаць рэгіянальнымі навукова-педагагічнымі і навучальна-метадычнымі цэнтрамі, якія аб'ядноўваюць і каардынуюць работу па арыентацыі і адбору моладзі на педагагічныя прафесіі, падрыхтоўцы педагагічных кадраў і павышэнні іх прафесійнага майстэрства. Цэнтр будзе накіроўваць дзейнасць школ і класаў педагагічнага профілю, педагагічных гімназій, ліцэяў, каледжаў, навучальна-метадычных кабінетаў, а таксама арганізоўваць псіхолага-педагагічную асвету бацькоў і іншых катэгорый насельніцтва.

Неабходна стварыць у рэспубліцы сістэму падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі інжынерна-педагагічных кадраў для прафтэхвучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ і іншых форм прафесійнай адукацыі. З гэтай мэтай належыць пашырыць сетку інжынерна-педагагічных факультэтаў, а таксама практыкаваць адпаведную спецыялізацыю студэнтаў старэйшых курсаў з павелічэннем пры неабходнасці тэрміну іх навучання на 1—2 гады.

## 3.2. Навукова-метадычнае забеспячэнне

Рэфармаванне нацыянальнай сістэмы адукацыі і выхавання ў рэспубліцы адбываецца ў складаных і дынамічна зменлівых палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах. Таму першаступеннае значэнне мае распрацоўка тэарэтыка-метадалагічнага базісу адукацыі і выхавання. Яго павінна стварыць нацыянальная псіхолага-педагагічная навука, якая перажывае сваё адраджэнне. Яе развіццё патрабуе цеснага ўзаемадзеяння з філасофіяй, сацыялогіяй і эканомікай адукацыі, а таксама з перадавой сусветнай і айчыннай практыкай. Станаўленне комплексу навук аб адукацыі і стварэнне сістэмы метадычнага забеспячэння павінны спалучацца з радыкальнай перабудовай работы ўсіх рэспубліканскіх і рэгіянальных навукова-метадычных устаноў. Сутнасць гэтага працэсу заключаецца ў пераходзе ад дырэктыўнага рэгулявання ўкаранення педагагічных навацый да метаду ўсебаковага навукова-метадычнага абслугоўвання навучальна-выхаваўчага працэсу з мэтай яго пастаяннага ўдасканалення і развіцця.

У сувязі з навізной многіх навукова-метадычных праблем, адсутнасцю ў рэспубліцы сталых навуковых школ надзвычай важна распрацаваць стратэгію і праграму навуковых даследаванняў у галіне адукацыі на перыяд да 2000 года. Пры гэтым неабходна прадугледзець: распрацоўку доўга- і кароткатэрміновых арганізацыйна-педагагічных прагнозаў у адпаведнасці з перспектывамі навукова-тэхнічнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства; правядзенне сістэмных навуковых даследаванняў зместу і форм бесперапыннай адукацыі і выхавання; падрыхтоўку новых навучальных планаў і праграм; распрацоўку эфектыўных педагагічных тэхналогій і сістэм кіравання адукацыяй і выхаваннем.

У 1992—1993 гг. патрэбна завяршыць распачатую карэкціроўку навучальна-праграмных дакументаў на пераходны перыяд. У далейшым усе новаўвядзенні належыць ажыццяўляць толькі пасля сур'ёзнай эксперыментальнай праверкі.

Мэтазгодна на базе лепшых навучальна-выхаваўчых устаноў адкрыць доследна-эксперыментальныя пляцоўкі, прыцягваць да навукова-даследчыцкай працы найбольш ініцыятыўных і творчых выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў. Трэба павысіць у гэтым ролю Педагагічнага таварыства, Таварыства псіхолагаў, Асацыяцыі педагогаў-даследчыкаў, Творчага аб'яднання педагогаў рэспублікі, саветаў дырэктараў (рэктараў) навучальных устаноў і іншых грамадскіх аб'яднанняў педагогаў, а таксама творчых саюзаў дзеячаў літаратуры, мастацтва і культуры.

Адной з галоўных задач навукова-метадычных устаноў з'яўляецца стварэнне навучальна-метадычных комплексаў, у якія ўваходзяць падручнік, методыка выкладання, дыдактычныя матэрыялы, тэхнічныя і іншыя сродкі навучання, дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў. Для хуткага і якаснага вырашэння гэтай задачы неабходна на конкурснай аснове падключыць увесь навукова-педагагічны патэнцыял рэспублікі, у тым ліку навукоўцаў і метадыстаў, супрацоўнікаў кафедраў педагогікі і прыватных методык універсітэтаў і пединстытутаў, творчых выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў.

Патрэбна забяспечыць гарызантальную і вертыкальную каардынацыю дзейнасці навукова-метадычных устаноў, арганізаваць стройную сістэму метадычнай работы з рознымі катэгорыямі педагогаў і іншых работнікаў сферы адукацыі.

У сувязі са складанай сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыяй, асабліва ў раёнах, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы, і месцах перасялення, педагогі, бацькі, дзеці і моладзь маюць патрэбу ў псіхалагічнай дапамозе і падтрымцы. Дзеля вырашэння гэтай задачы неабходна стварыць дзяржаўную сістэму сацыяльна-псіхалагічнай службы, якая б уключала ў сябе Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр і рэгіянальныя метадычна-кансультацыйныя кабінеты і пункты.

Для абагульнення і распаўсюджання перадавога сусветнага і айчыннага вопыту, дасягненняў псіхолага-педагагічнай навукі і метадычных распрацовак неабходна стварыць рэспубліканскі інфармацыйны банк, а таксама навукова-метадычнае выдавецтва. З мэтай падтрымкі творчага пошуку трэба ў вызначаным парадку вырашыць пытанне аб стварэнні рэспубліканскага цэнтра педагагічных інавацый з правам выдачы аўтарскіх пасведчанняў.

## 3.3. Навучальна-матэрыяльная база

Эфектыўнае навучанне і выхаванне, выкарыстанне прагрэсіўных педагагічных тэхналогій, захаванне і ўмацаванне здароўя навучэнцаў і педагагічных работнікаў магчымы толькі пры адпаведнай навучальна-матэрыяльнай базе. Для прывядзення яе да належнага стану неабходна адысці ад уніфікаваных, стэрэатыпна-тыпавых падыходаў, распрацаваць і ўкараніць новыя дыферэнцыраваныя нарматывы будаўніцтва і матэрыяльна-тэхнічнага аснашчэння навучальна-выхаваўчых устаноў розных тыпаў.

Праектаванне, узвядзенне і рэканструкцыю аб'ектаў адукацыі патрэбна ажыццяўляць на аснове паглыбленага вывучэння дэмаграфічнай і экалагічнай сітуацый, прагнозу эканоміка-культурнага развіцця рэгіёна, канкрэтных функцый і задач навучальна-выхаваўчых устаноў. Пры гэтым неабходна стварыць умовы для пераводу школ з кабінетнай на класна-лабараторную сістэму, якая забяспечыць кожнаму класу сваё памяшканне, кожнаму вучню — сваё рабочае месца. Для асобных прадметаў (фізіка, хімія і інш.) ствараюцца добра аснашчаныя лабараторыі. Апрача таго, неабходна ўлічваць, што ўстановам адукацыі трэба стаць адукацыйна-культурнымі цэнтрамі гарадскіх мікрараёнаў і сельскіх населеных пунктаў, уключаць навучальна-выхаваўчыя, культурныя, спартыўныя, вытворчыя зоны, якія прызначаны для навучання і выкарыстання насельніцтвам і дзецьмі ў вольны ад вучобы час.

Новыя нарматывы павінны прадугледжваць павелічэнне ў 1,5—2 разы забяспечанасці ўстаноў адукацыі навучальнымі плошчамі, мэбляй, прыборамі, абсталяваннем, літаратурай і іншымі матэрыяльнымі сродкамі і ўлічваць спецыфіку функцыянальнага прызначэння аб'екта, кантынгента, які там вучыцца, зместу і арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу, а таксама медыка-санітарныя нарматывы і нацыянальныя традыцыі.

Каб задаволіць масавую патрэбу ў спецыфічнай мэблі, тэхнічных і іншых сродках навучання, неабходна стварыць цэласную сістэму навукова-метадычнага, канструктарска-тэхналагічнага і вытворчага забеспячэння навучальна-матэрыяльнай базы адукацыі. Увесь комплекс адзначаных пытанняў належыць спалучаць з удасканаленнем навучальна-выхаваўчага працэсу. Гэта дазволіць гібка і своечасова забяспечыць як надзённыя, так і новыя патрэбы навучальных устаноў, што ўзнікаюць разам з развіццём сістэмы адукацыі.

Асноўным механізмам аснашчэння сістэмы адукацыі павінен быць дзяржаўны заказ на будаўніцтва і забеспячэнне важнейшымі матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі. Для падтрымання і мадэрнізацыі навучальных устаноў міжрэгіянальнага значэння патрабуецца стварыць спецыяльныя фонды. З мэтай рацыянальнага выкарыстання ў навучальна-выхаваўчым працэсе унікальнага абсталявання варта арганізаваць рэспубліканскія і рэгіянальныя цэнтры калектыўнага выкарыстання і базы пракату.

Для задавальнення ўзрастаючай патрэбы школ, вучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ і іншых навучальных устаноў у падручніках, навучальных дапаможніках, навукова-метадычнай літаратуры неабходна стварыць у сістэме адукацыі ўласную рэдакцыйна-выдавецкую і паліграфічную базу.

Пры вырашэнні ўсіх пытанняў матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння сістэмы адукацыі неабходна больш поўна і эфектыўна выкарыстоўваць яе ўласныя магчымасці, наяўны кадравы і вытворчы патэнцыял, ствараць навучальна-вытворчыя аб'яднанні, малыя прадпрыемствы, спецыяльныя цэхі, участкі, майстэрні, ажыццяўляць вытворча-камерцыйную дзейнасць. Мэтазгодна прыцягнуць да гэтай справы навучэнцаў, студэнтаў, педагогаў, навуковых супрацоўнікаў, бо гэта дазволіць разам з умацаваннем базы вырашыць праблемы паляпшэння іх матэрыяльнага становішча, а таксама практычнай падрыхтоўкі да будучай дзейнасці.

У сучасных умовах важна паклапаціцца пра міжрэгіянальнае і міждзяржаўнае супрацоўніцтва ў вытворчасці навучальнага абсталявання і сродкаў навучання, неабходна ствараць з гэтай мэтай сумесныя творчыя калектывы і прадпрыемствы.

## 3.4. Фінансаванне

Адукацыя як галіна сацыяльнай сферы павінна фінансавацца пераважна за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Пры гэтым, як сведчыць сусветная практыка, мэтазгодна ў заканадаўчым парадку ўстанаўліваць гарантаваную долю нацыянальнага даходу, якая выдзяляецца гэтай галіне.

Бюджэтнымі сродкамі забяспечваюцца:

— навучанне ва ўсіх дзяржаўных навучальных установах у поўным аб'ёме — пры атрыманні базавай адукацыі і ў адпаведнасці з дзяржаўнымі заказамі на больш высокіх ступенях;

— навучанне ў недзяржаўных навучальных установах (грамадскіх, кааператыўных, прыватных) — па нарматывах дзяржаўных — пры ажыццяўленні імі базавай адукацыі ў адпаведнасці з устаноўленымі дзяржавай патрабаваннямі, а таксама на іншых ступенях падрыхтоўкі кадраў па дзяржаўным заказе;

— фундаментальныя і прыкладныя даследаванні, навукова-метадычныя распрацоўкі па праблемах навучання і выхавання;

— дзейнасць дашкольных і пазашкольных устаноў, правядзенне мерапрыемстваў па творча-тэхнічнай, культурна-масавай, спартыўна-аздараўленчай і іншай рабоце сярод вучняў, а таксама па псіхолага-педагагічнай асвеце жыхароў рэспублікі;

— развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы дзяржаўных устаноў, падрыхтоўка і выданне навучальнай і навукова-метадычнай літаратуры, набыццё сродкаў навучання, прыбораў, абсталявання, мэблі;

— павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка кадраў для бюджэтных галін.

Бюджэтнае фінансаванне павінна ажыццяўляцца па нарматывах (на аднаго вучня, студэнта і г. д.), а ў пераходны перыяд — па ўзбуйненых артыкулах: аплата працы, стыпендыі, развіццё базы і да т. п. Пры гэтым неабходна мець на ўвазе тып навучальнай установы, рэгіянальныя і іншыя фактары. Пры фактычным выдзяленні сродкаў павінен улічвацца ўзровень інфляцыі, а кампенсацыя — мець апераджальны характар.

Дадатковыя сродкі навучальна-выхаваўчыя ўстановы могуць атрымаць з дапамогай спонсараў, а таксама ўласнай навукова-вытворчай і камерцыйнай дзейнасці, аказання платных паслуг насельніцтву, прадпрыемствам, арганізацыям. Пры гэтай умове прыцягненне пазабюджэтных крыніц павінна быць ільготным, а памеры дадатковага фінансавання — не абмяжоўвацца. Уласную навукова-вытворчую і камерцыйную дзейнасць нельга праводзіць за кошт зніжэння якасці навучальна-выхаваўчага працэсу і падрыхтоўкі кадраў. Не могуць быць платнымі тыя віды паслуг, якія аплочваюцца з бюджэту, а памеры бюджэтнага фінансавання не павінны змяншацца ў сувязі з наяўнасцю або магчымасцю атрымання сродкаў з іншых крыніц.

У дзяржаўных навучальных установах платнымі могуць быць дадатковыя віды навучання, паўторнае навучанне, атрыманне другога віду адукацыі, дадатковай спецыяльнасці (акрамя выпадкаў, калі гэта абумоўлена станам здароўя або іншымі важкімі прычынамі). Падрыхтоўка кадраў у прафесійных навучальных установах звыш дзяржаўнага заказу ажыццяўляецца па дагаворах з прадпрыемствамі і арганізацыямі за іх сродкі або за кошт спецыяльных фондаў. Магчыма таксама навучанне і за сродкі грамадзян, для чаго ўводзіцца дзяржаўная сістэма мэтавага крэдытавання.

Недзяржаўныя навучальна-выхаваўчыя ўстановы могуць атрымліваць бюджэтныя сродкі пры паспяховым выкананні сваіх функцый, што пацвярджаецца ў вызначаным парадку.

Для ўстаноў сістэмы адукацыі, якія фінансуюцца з дзяржбюджэту, устанаўліваюцца льготныя ўмовы падаткаабкладання. Павінны вызваляцца ад падаткаў сродкі, што выдзяляюцца з дзяржбюджэту, атрыманыя ў выніку ўласнай навукова-вытворчай ці камерцыйнай дзейнасці або пералічаныя прадпрыемствамі, арганізацыямі і накіраваныя на развіццё базы, на іншыя віды выдаткаў, уключаныя ў артыкулы бюджэтнага фінансавання, а таксама сродкі, што накіроўваюцца ў цэнтралізаваныя фонды развіцця адукацыі (як рэспубліканскія, так і мясцовыя). Неабходна ўстанавіць падатковыя льготы і на валютныя сродкі, якія атрымліваюць навучальныя і іншыя ўстановы адукацыі.

З мэтай канцэнтрацыі і рацыянальнага выкарыстання сродкаў крэдытавання ўстаноў адукацыі, творчых калектываў, асобных навукоўцаў, педагогаў і навучэнцаў мэтазгодна стварыць рэспубліканскі камерцыйны банк сістэмы адукацыі.

## 3.5. Дзяржаўна-грамадскае кіраванне

Кіраванне адукацыяй павінна забяспечыць функцыяніраванне і ўдасканаленне нацыянальнай сістэмы навучання і выхавання, павышэнне яе ролі ў сацыяльна-эканамічным развіцці рэспублікі, уключэнне ў сусветную адукацыйную супольнасць.

Для павышэння выніковасці кіравання адукацыяй неабходна цеснае ўзаемадзеянне дзяржавы і грамадства. Гэты працэс трэба развіваць у напрамку паступовага пераходу ад дзяржаўнага да дзяржаўна-грамадскага, а потым і грамадска-дзяржаўнага кіравання, калі развіццё адукацыі і выхавання стане клопатам усіх грамадскіх і дзяржаўных структур.

Рэальнае ўвасабленне дзяржаўна-грамадскага стылю кіравання адукацыяй і ліквідацыя элементаў супярэчнасці паміж дзяржавай, адукацыяй і грамадствам, адукацыяй і іншымі сферамі дзейнасці патрабуюць фарміравання цэласнага дзяржаўна-прававога і грамадскага механізму, які забяспечвае:

— прэстыж ведаў і педагагічнай прафесіі ў грамадстве, адпаведную долю нацыянальнага даходу на развіццё адукацыі і аплату працы педагагічных работнікаў;

— парытэтны ўдзел асобы, грамадства і дзяржавы ў выбары адукацыйных мэт, шляхоў і сродкаў іх дасягнення;

— фарміраванне сацыяльна і эканамічна раўнапраўных узаемаадносін навучальных устаноў, педагогаў, вучняў і студэнтаў з органамі мясцовага самакіравання, прадпрыемствамі і арганізацыямі;

— дэлегаванне паўнамоцтваў «знізу — уверх», г. зн. ад вучняў, студэнтаў, бацькоў, педагогаў да адміністрацыі навучальнай установы; ад навучальнай установы і грамадскай структуры да рэгіянальных і цэнтральных органаў дзяржаўнага ўпраўлення.

Галоўнымі напрамкамі ўдасканалення кіравання адукацыяй на сучасным этапе з'яўляюцца:

— арганізацыя эфектыўнага кіраўніцкага працэсу на аснове раздзялення функцый, правоў і адказнасці яго ўдзельнікаў, іх арыентацыі на канчатковыя вынікі;

— перадача большасці аператыўных упраўленчых функцый з верхніх узроўняў на ніжнія, пашырэнне самастойнасці навучальных устаноў у вырашэнні арганізацыйна-педагагічных і гаспадарча-эканамічных пытанняў;

— перанос функцый органаў цэнтральнага ўпраўлення з кантрольна-рэгістрацыйных і размеркавальных на аналітычныя, каардынуючыя і прагнастычныя;

— перавод дзейнасці мясцовых органаў упраўлення на рэалізацыю аналітычных і арганізацыйна-метадычных функцый;

— пераход ад пераважна адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання да эканамічных і дэмакратычных, ад дзяржаўных да дзяржаўна-грамадскіх, ад упраўлення калектывамі да сумеснага кіравання і самакіравання.

Жыццяздольнасць сістэмы адукацыі і выхавання залежыць ад таго, наколькі яна цесна звязана з тэрытарыяльна-вытворчымі комплексамі і мясцовымі сацыяльна-культурнымі структурамі і ў якой меры садзейнічае іх развіццю. Таму адной з вызначальных перадумоў паспяховага развіцця адукацыі з'яўляецца яе рэгіяналізацыя.

У змесце і формах навучання і выхавання неабходна ўлічваць асаблівасці і спецыфіку краю, яго эканоміку, гісторыю, геаграфію, культуру, традыцыі, нацыянальны і рэлігійны склад насельніцтва.

Апрача таго, разам з забеспячэннем дзяржаўных стандартаў па агульнай і прафесійнай адукацыі трэба ўлічваць галоўныя заняткі ў краі, асаблівасці прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, народных промыслаў і іншых здабыткаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Менавіта тады адукацыя звяжа ў адзінае цэлае інтарэсы бацькоў і дзяцей, патрэбы мясцовых гаспадарчых прадпрыемстваў і сацыяльных устаноў і стане не толькі неад'емным, але і неабходным кампанентам мясцовага жыцця. Такі падыход адпавядае існуючым за мяжой сістэмам муніцыпальных навучальных устаноў. Пры гэтым адбываецца ў значнай меры дэцэнтралізацыя кіравання школамі і іншымі навучальнымі ўстановамі. Адначасова мясцовыя ўлады, прадпрыемствы, грамадскасць бяруць на сябе амаль усе клопаты па матэрыяльна-фінансавым забеспячэнні сваіх устаноў, задавальненні патрэб настаўнікаў і выхавацеляў у жыллі і вырашэнні іншых пытанняў, звязаных з навучаннем, выхаваннем і далейшым лёсам моладзі.

Пашырэнне правоў мясцовых улад павялічвае іх магчымасці ў распрацоўцы і здзяйсненні розных праграм развіцця вытворчых сіл і рацыянальнага выкарыстання працоўных рэсурсаў. Гэта будзе спрыяць упарадкаванню сеткі і інтэграцыі навучальных устаноў, звяжа іх дзейнасць з сацыяльна-эканамічнымі праблемамі рэгіёна. Рэгіяналізацыя адукацыі здольна зменшыць міграцыю моладзі, асабліва сельскай, дапамагчы ёй застацца на роднай зямлі.

Пры ажыццяўленні дзяржаўна-грамадскага кіравання адукацыяй і выхаваннем узрастае роля грамадскіх саветаў, саюзаў, асацыяцый, фондаў і г. д., якія прадстаўляюць інтарэсы розных сацыяльных груп і забяспечваюць іх сувязь з навучальнымі ўстановамі. Асаблівае значэнне пры гэтым мае дзейнасць грамадскіх прафесійных аб'яднанняў педагогаў, бацькоў і навучэнцаў.

Узаемадзеянне і каардынацыю работы дзяржаўных і недзяржаўных навучальных устаноў, грамадскіх структур ажыццяўляюць Міністэрства адукацыі і выхавання і мясцовыя органы кіравання, за якімі захоўваюцца функцыі забеспячэння адзінай дзяржаўнай палітыкі, што гарантуе рэалізацыю ўсімі формамі і відамі адукацыі дзяржаўных патрабаванняў. Гэта не выключае пашырэння самастойных функцый навучальных устаноў і ўплыву грамадскіх аб'яднанняў на працэсы развіцця адукацыі, задавальнення адукацыйных грамадскіх і асобасных патрэб, якія ўзнікаюць у новых сацыяльна-эканамічных умовах.

Грамадскім структурам прадастаўляюцца шырокія магчымасці праводзіць экспертызу дзяржаўных адукацыйных праектаў і праграм, аказваць падтрымку і ўдзельнічаць у іх распрацоўцы і рэалізацыі, а таксама вывучаць, фарміраваць грамадскую думку і ўносіць свае прапановы па ўдасканаленні сістэмы адукацыі і выхавання і тым самым спрыяць развіццю інтэлектуальна-творчага патэнцыялу нацыі.

У сучасных умовах неабходнай становіцца задача стварэння сістэмы падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кіруючых кадраў усіх ступеняў, а таксама псіхолага-педагагічнай асветы членаў грамадскіх аб'яднанняў, якія займаюцца пытаннямі адукацыі і выхавання.

## 3.6. Сацыяльна-эканамічная абарона

У шырокім плане сацыяльна-эканамічная абарона адукацыі прадугледжвае яе гарантаванае бюджэтнае фінансаванне, выкарыстанне небюджэтных крыніц і падатковых ільгот у адносінах як да навучальных устаноў, так і да арганізацый-спонсараў сістэмы адукацыі, забеспячэнне навучальна-матэрыяльнай базы ўстаноў адукацыі праз дзяржаўныя заказы, стварэнне ўмоў для вытворча-камерцыйнай дзейнасці ў сістэме адукацыі, персанальную сацыяльную абарону вучняў, студэнтаў, аспірантаў, дактарантаў, выкладчыкаў і іншых супрацоўнікаў.

У адносінах да навучэнцаў сацыяльна-эканамічная абарона павінна ажыццяўляцца па некалькіх напрамках. Першы — непасрэдны ўдзел дзяржавы ў сацыяльнай абароне выхаванцаў і навучэнцаў. У сувязі з павелічэннем цэн на тавары і паслугі неабходна праводзіць адпаведныя карэктывы грашовых норм фінансава-матэрыяльнага забеспячэння выхаванцаў, а таксама памеру стыпендый навучэнцаў і студэнтаў, гарантаваць ім грашовыя кампенсацыі на харчаванне, пражыванне на прыватных кватэрах і праезд на транспарце. Акрамя таго, вучні, студэнты, аспіранты і дактаранты, якія сумяшчаюць вучобу з працай, павінны мець права на атрыманне заработнай платы штотыднёва і з вызваленнем ад падаходных падаткаў. Другі напрамак заключаецца ў пашырэнні ўдзелу прадпрыемстваў і арганізацый-заказчыкаў у падрыхтоўцы кадраў. Ён звязаны з павелічэннем грашовага і матэрыяльнага ўкладу ў навучанне рабочых і спецыялістаў, у дзейнасць дашкольных і іншых устаноў, а таксама з прыцягненнем да вытворча-камерцыйнай дзейнасці вучняў і студэнтаў. Дзяржаўнае ўздзеянне на гэты накірунак павінна адлюстроўвацца ў гібкай падатковай палітыцы:

— вызваленне прадпрыемстваў і арганізацый ад падаткаў на прыбытак, калі ў складзе іх работнікаў не менш за палову вучняў, студэнтаў, аспірантаў, маладых спецыялістаў;

— памяншэнне падатку з прыбытку для прадпрыемстваў і арганізацый, якія прыцягваюць да работы (у тым ліку часовай, сезоннай) вучняў, студэнтаў, аспірантаў, маладых спецыялістаў (у час прыцягнення абкладаемая падаткам сума змяншаецца на велічыню налічанай указаным катэгорыям работнікаў заработнай платы);

— скарачэнне часткі падатку на прыбытак прадпрыемстваў і арганізацый, якія маюць на балансе навучальныя і дашкольныя ўстановы: абкладаемая сума змяншаецца на 50 % некампенсаваных выдаткаў на ўтрыманне ўказаных устаноў.

Меры па сацыяльнай абароне педагогаў у новых эканамічных умовах уключаюць у першую чаргу своечасовае павышэнне аплаты іх працы. Дзяржава павінна забяспечыць такую сістэму фінансавых разлікаў з адукацыяй, каб аплата працы педагогаў змянялася апераджальнымі або хаця б аднолькавымі тэмпамі са зменамі аплаты працы спецыялістаў іншых галін. Патрэбна таксама рэгулярная карэкціроўка зарплаты ў адпаведнасці са змяненнем індэкса цэн і ў залежнасці ад кваліфікацыі і вынікаў педагагічнай дзейнасці. Сярэднюю заработную плату педагагічных работнікаў трэба ўстанаўліваць не ніжэй за сярэднюю заработную плату служачых у прамысловасці, а метадыстаў, выкладчыцкага саставу ВНУ і навукоўцаў — адпаведна ў 1,5; 2,0 і 2,5 разы вышэй. Толькі пры гэтай умове, характэрнай для практыкі развітых краін, можна рэальна разлічваць на ўздым прэстыжу адукаванасці і педагагічнай прафесіі.

З мэтай павышэння эфектыўнасці працы ў сістэме адукацыі нельга абмяжоўваць фонд прэміравання работнікаў, трэба пашыраць дыферэнцыяцыю аплаты працы, выкарыстоўваць конкурснае замяшчэнне пасад, укараняць кантрактную форму найму, сістэматычную атэстацыю кадраў.

У сувязі з грамадскай значнасцю, напружанасцю і складаным характарам педагагічнай дзейнасці, вялікім аб'ёмам падрыхтоўкі да заняткаў педагагічным работнікам павінен прадастаўляцца шэраг сацыяльных ільгот: памяншэнне абавязковай вучэбнай нагрузкі, больш працяглы адпачынак, палепшанае медыцынскае абслугоўванне, аздараўленне і пенсійнае забеспячэнне, ільготнае выдзяленне жылля, навучальна-метадычнай і навуковай літаратуры. Дадатковыя сацыяльныя прывілеі неабходна ўстанаўліваць педагогам, якія працуюць у зоне радыеактыўнага забруджання, у сельскай мясцовасці, а таксама ў спецыяльных навучальна-выхаваўчых установах, якія ствараюцца дзяржавай для сацыяльнай абароны, выхавання і навучання дзяцей і падлеткаў з недахопамі фізічнага і разумовага развіцця.

## 3.7. Прававое забеспячэнне

Неабходнай умовай нармальнага функцыяніравання адукацыйнай сістэмы з'яўляецца яе прававое забеспячэнне, цэнтральным заканадаўчым актам якога выступае Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». Прынцыпова важна замацаваць яго асноўныя нормы ў новай Канстытуцыі. У ёй патрэбна адлюстраваць такія палажэнні: «Адукацыя ўяўляе прыярытэтную сферу дзейнасці, дзяржава нясе адказнасць за яе стан і стварае неабходныя ўмовы для яе развіцця». Важна ўдакладніць і канстытуцыйныя правы грамадзян на адукацыю: «Кожны грамадзянін мае права на адукацыю. Базавая адукацыя бясплатная і абавязковая. Прафесійная адукацыя павінна быць даступнай для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі. Навучанне ў дзяржаўных навучальных установах можа быць бясплатнае і платнае. Арганізацыі і грамадзяне маюць права ствараць недзяржаўныя, у тым ліку прыватныя, навучальныя ўстановы».

Ажыццяўленне Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» абумоўлівае комплекс арганізацыйна-прававых мерапрыемстваў. Патрабуецца абнаўленне ўсёй сістэмы заканадаўчых актаў, якія рэгулююць грамадскія адносіны ў сферы адукацыі і выхавання. Гэта вызначаецца суверэнітэтам рэспублікі, неабходнасцю замены прававых актаў былога СССР заканадаўчымі актамі Беларусі, прыярытэтным развіццём адукацыі ў грамадстве, новымі ўзаемасувязямі яго структурных элементаў, павышэннем ролі, самастойнасці і адказнасці ўстаноў адукацыі.

Належыць таксама распрацаваць новыя ведамасныя акты па вырашэнні адпаведных пытанняў арганізацыі навучання і выхавання.

Дзейнасць дзяржаўных навучальных устаноў павінна рэгулявацца іх Статутам або Палажэннем, якія распрацоўваюцца на аснове тыпавых дакументаў, што зацвярджаюцца Саветам Міністраў Беларусі.

Статус недзяржаўных навучальна-выхаваўчых устаноў (грамадскіх, кааператыўных, прыватных) вызначаецца іх індывідуальным Статутам (Палажэннем). Ён рэгіструецца ва ўстаноўленым парадку на аснове агульнага дзяржаўнага Палажэння, якое рэгламентуе адкрыццё і функцыяніраванне такіх устаноў.

Навучальныя ўстановы павінны валодаць шырокай самастойнасцю, аднак патрэбна, каб змест адукацыі, аб'ём і ўзровень ведаў адпавядалі ўстаноўленым патрабаванням.

Належыць распрацаваць і прыняць палажэнні, якія рэгулююць у новых умовах пытанні перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў, падрыхтоўкі навукова-педагагічных работнікаў, прысваення вучоных ступеняў і званняў, замяшчэння вакантных пасад, атэстацыі і г. д.

Патрэбна прыняць шэраг новых заканадаўчых актаў, якія датычаць правоў і абавязкаў вучняў, студэнтаў, іншых катэгорый навучэнцаў, бацькоў і асоб, якія іх замяняюць.

Правілы прыёму можа вызначаць сама навучальная ўстанова, але ў іх не павінна быць ільгот і пераваг, якія сёння прадастаўляюцца розным катэгорыям грамадзян. Крытэрый тут адзіны — здольнасці паступаючага. Неабходныя для некаторых катэгорый выключэнні ўстанаўліваюцца ў заканадаўчым парадку.

Права грамадзян на ўладкаванне сваіх дзяцей у дашкольныя, пазашкольныя і навучальныя ўстановы таксама належыць сістэматызаваць і замацаваць у адпаведных заканадаўчых актах.

Прававога рэгулявання патрабуе і ўдзел грамадскіх структур у кіраванні адукацыяй. Навуковыя і педагагічныя таварыствы, асацыяцыі, студэнцкія і вучнёўскія саветы, бацькі павінны мець права больш актыўна ўплываць на працэс навучання і выхавання, удзельнічаць у распрацоўцы перспектыў развіцця навучальна-выхаваўчых устаноў, умацаванні іх фінансава-матэрыяльнай базы, падборы і атэстацыі выкладчыцкага саставу, правядзенні экспертных ацэнак дзейнасці ўстаноў і асобных педагогаў.

## 3.8. Інтэграцыя ў сусветную адукацыйную прастору

Сістэма адукацыі і выхавання ў Беларусі, якая адраджае сваю самабытную гістарычную і нацыянальна-культурную аснову, не можа быць замкнёнай і ізаляванай. Яна павінна інтэгравацца ў сусветную адукацыйную прастору, акумуліраваць лепшыя дасягненні замежных краін. Для гэтага неабходна выпрацаваць надзейныя механізмы ўзаемадзеяння нацыянальнай школы з адукацыйнымі сістэмамі іншых дзяржаў, міжнароднымі адукацыйнымі арганізацыямі і праграмамі, абапірацца на дыпламатычныя службы, беларускую дыяспару, прадстаўніцтва Беларусі ў ААН, ЮНЕСКА і г. д.

Асноўнымі напрамкамі міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне адукацыі і выхавання на сучасным этапе з'яўляюцца:

— сістэмнае вывучэнне, назапашванне і выкарыстанне замежнага вопыту, вынікаў навуковых даследаванняў па перспектыўных тэхналогіях навучання і выхавання дзяцей і моладзі, падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў;

— устанаўленне шматбаковых сувязей органаў кіравання, навуковых і навучальных устаноў рэспублікі з замежнымі партнёрамі; абмен навучэнцамі, студэнтамі, аспірантамі, выкладчыкамі і навуковымі работнікамі; арганізацыя сумесных даследаванняў і навукова-метадычных распрацовак; рэалізацыя праграм для здольных і таленавітых юнакоў і дзяўчат, дзяцей, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай дапамозе і абароне;

— пашырэнне падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і стажыроўкі за мяжой студэнтаў і спецыялістаў, перш за ўсё праз уключаныя формы адукацыі ў вядучых ВНУ Еўропы, ЗША і Японіі;

— збліжэнне нацыянальнай школы Беларусі з замежнымі сістэмамі адукацыі на аснове ўзаемапрызнання і ідэнтыфікацыі навучальных планаў, пералікаў прафесій і спецыяльнасцей, дыпломаў і ўзроўняў кваліфікацыі, навуковых ступеняў і званняў;

— распрацоўка і рэалізацыя сумесных праектаў павышэння міжнароднай мабільнасці выкладчыкаў, вучоных-педагогаў, навучэнцаў і студэнтаў;

— арганізацыя падрыхтоўкі спецыялістаў для замежных краін у беларускіх навучальных установах;

— інфармацыйны абмен па пытаннях адукацыі і выхавання.

Ажыццяўленне гэтых накірункаў звязана перш за ўсё з паглыбленнем дзеючых і заключэннем новых міжурадавых і міжведамасных пагадненняў па праблемах навучання і выхавання, уключэннем у міжнароднае супрацоўніцтва больш шырокага кола органаў і ўстаноў айчыннай сістэмы адукацыі. Пры гэтым варта выкарыстоўваць прагрэсіўныя формы ўзаемадзеяння з замежнымі партнёрамі, такія, як сумесныя прадпрыемствы, фонды, праекты, часовыя творчыя калектывы, продаж ліцэнзій і педагагічных інавацый і інш., якія забяспечаць эканамічныя выгады, мадэрнізацыю навучальна-матэрыяльнай і навукова-метадычнай базы, вырашэнне вузлавых праблем нацыянальнай школы на аснове сусветнага вопыту і з выкарыстаннем замежнага інтэлектуальнага патэнцыялу. Для гэтага патрабуюцца вывучэнне кан'юнктуры міжнароднага адукацыйнага рынку, камерцыйная распрацоўка і шырокая рэклама даследаванняў, методык, сродкаў навучання, якія выконваюцца беларускімі навучальнымі і навуковымі ўстановамі і асобнымі спецыялістамі.

Развіццё міжнародных сувязей у сферы адукацыі павінна адбывацца з улікам інтарэсаў рэспублікі ў цэлым. У сваю чаргу, неабходна, каб усе знешнія эканамічныя, культурныя, гандлёвыя і іншыя кантакты ўключалі і адукацыйна-навуковыя аспекты. Асаблівым клопатам тут павінна стаць выкарыстанне вопыту і магчымасцей развітых краін у падрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі кадраў Беларусі, перш за ўсё занятых у ключавых вытворчасцях.

На якасна новы ўзровень патрэбна ўзняць узаемадзеянне нацыянальнай сістэмы адукацыі з ЮНЕСКА, МАП і іншымі міжнароднымі арганізацыямі. З іх дапамогай неабходна больш актыўна ўключыцца ў рэалізацыю адукацыйных праграм, звязаных з новымі інфармацыйнымі тэхналогіямі, аховай навакольнага асяроддзя і асабліва з ліквідацыяй вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Высокай эфектыўнасці міжнароднага супрацоўніцтва можна дасягнуць толькі пры належным інфармацыйным забеспячэнні, заснаваным на прымяненні сучасных сродкаў сувязі, а таксама пры карэнным паляпшэнні вывучэння замежных моў.

Міжнародная дзейнасць павінна стаць адным з прыярытэтных накірункаў работы ўсіх органаў кіравання адукацыяй.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Рэалізацыя Канцэпцыі адукацыі і выхавання ў Беларусі будзе садзейнічаць узбагачэнню інтэлектуальнага і вытворчага патэнцыялу нацыі, станаўленню і развіццю адукаванай, творчай і маральнай асобы, павышэнню дабрабыту людзей і духоўнаму росквіту грамадства. Для гэтага патрэбна распрацоўка Дзяржаўнай комплекснай праграмы развіцця адукацыі і выхавання ў Беларусі на перыяд да 2000 года, якая павінна перавесці навукова-тэарэтычныя палажэнні канцэпцыі ў плоскасць канкрэтнай практычнай дзейнасці рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіравання, навукова-метадычных і навучальна-выхаваўчых устаноў, педагагічнай і бацькоўскай грамадскасці.

Ажыццяўленне Канцэпцыі становіча адаб'ецца на лёсе кожнага дзіцяці, кожнай сям'і, кожнага працоўнага калектыву, калі надзённай задачай дзяржаўных і грамадскіх структур, палітычных партый, дзелавых колаў, прадпрымальнікаў, творчых саюзаў і рэлігійных арганізацый зробіцца клопат аб выхаванні і навучанні падрастаючых пакаленняў, перадачы ім у спадчыну лепшых здабыткаў і традыцый беларускага народа. Патрэбна зрабіць усё магчымае дзеля таго, каб нашы нашчадкі ўступалі ў жыццё добрасумленнымі, адукаванымі і высокакультурнымі грамадзянамі. Пры гэтай умове Рэспубліка Беларусь зробіць значны крок, каб сустрэць XXI стагоддзе ў ліку развітых цывілізаваных краін свету.

**Праект Канцэпцыі адукацыі і выхавання ў Беларусі распрацаваны Часовым творчым калектывам у складзе: У. П. ПАРХОМЕНКА і А. У. КАЗУЛІН (кіраўнікі), Я. Г. БАНДАРЭНКА, М. І. ЛАТЫШ, С. А. ПАВАЛЯЕЎ, В. П. СТАЎРОЎ.**

**У падрыхтоўцы першасных матэрыялаў па асобных пытаннях прымалі ўдзел таксама іншыя навукоўцы, спецыялісты і практычныя работнікі.**

# РОЗГАЛАС

## ЛЮДЗІ ГІНУЦЬ ЗА МЕТАЛ

Шэраг аператыўных аперацый праведзены на таможні ў Брэсце. На грузавым пераходзе «Казловічы» былі затрыманы дзве польскія аўтамашыны, якія па кантракту з маскоўскай фірмай «Ціна» кантрабандным шляхам спрабавалі вывезці за межы рэспублікі 44 тоны медзі і 700 кілаграмаў нікелю. Затрыманы таксама і адзін ваеннаслужачы, маёр К., які разам з сынам стараўся збыць тры кілаграмы прамысловага серабра, вядома ж, крадзенага.

**Віктар ПАТАПЕНКА.**
**Прэс-цэнтр МУС Беларусі.**

## КАЛІ Ў ВАС БРАНХІТ—НАДЗІМАЙЦЕ ШАРЫКІ

**Як паказала даследаванне, праведзенае ў Вялікабрытаніі, асобам, што пакутуюць ад хранічнага бранхіту, вельмі карысна заняцца такой незвычайнай для дарослага чалавека справай, як... надзіманне паветраных шароў, прычым паўтараць гэтую аперацыю трэба да 40 разоў на дзень. Такім своеасаблівым спосабам лячэння дасягаецца ўзмацненне лёгкіх і ліквідуюцца цяжкасці ў дыханні.**

## ФЕРМЕРЫ ЗША МАРАЦЬ ПРА ТРАКТАР «БЕЛАРУСЬ»

Фірма **«Беларусь машынери Інк»** паспяхова працягвае штурм амерыканскага рынку. У мінулым годзе больш за 4 тысячы фермераў ЗША сталі ўладальнікамі трактароў «Беларусь». А з пачатку гэтага года ўжо заключаны дагаворы на пастаўку яшчэ 3 тысяч машын. Дарэчы, ЗША з'яўляюцца буйнейшым у свеце імпарцёрам беларускіх трактароў, а ў Мілуокі (штат Віскансін) нават адкрыўся цэнтр сервіснага абслугоўвання «Беларусі».

## МЕМАРЫЯЛ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

ГРОДНА. Абласны Савет народных дэпутатаў вырашыў стварыць на Гродзеншчыне мемарыял нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. Комплекс мемарыялу будзе ўключаць у сябе адноўленую сядзібу і музей.

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ГОЛАД—НЕ ЦЁТКА

Галодныя мядзведзі напалі на пасёлкі рыбакоў і аленяводаў Кутап'юган і Берагавы на поўначы Цюменскай вобласці. Яны задралі каля 100 дамашніх аленяў і гатовы былі накінуцца на людзей. І толькі выкліканы на «паляванне мядзведзяў» раённы паляўнічны інспектар уціхамірыў касалапых. Праўда, для гэтага спатрэбілася некалькі выстралаў, якія для аднаго з мішак сталі ракавымі. Астатнія звяры збеглі ў тайгу.

### ЗАГАДАМ ПА МАМАНТУ

У адпаведнасці з загадам прэзідэнта Рэспублікі Саха (Якуція) Міхаіла Нікалаева цяпер грамадзянам і арганізацыям забаронена збіраць, здабываць і вывозіць з рэспублікі біўні маманта і іншыя астанкі мамантавай фаўны.

Гэта звязана з тым, што ў апошні час цана на «маманцяціну» вельмі ўзрасла, узрасла і колькасць жадаючых пагрэць рукі на гэтай справе.

Ануляваны ўсе раней заключаныя дагаворы, кантракты, ліцэнзіі. Цяпер зборам, закупкай і захоўваннем, а таксама раскопкамі ў навуковых мэтах дазволена займацца толькі нацыянальнаму мамантаваму фонду і Сусветнаму музею маманта, які ствараецца ў Якуцку.

### ПАРТЫЙНЫ ДОМ «ЦЯРПІМАСЦІ»

Рашэннем гарадской адміністрацыі ў Самары адкрыты так званы партыйны дом. У адным будынку размясціліся вышэйшыя органы ўсіх шаснаццаці партый, грамадскіх саюзаў і рухаў, зарэгістраваных у горадзе.

Пры засяленні пад адзін дах партыйцы ўсіх кірункаў абяцалі цярпіма адносіцца адзін да аднаго, паважаць чужыя погляды.

### «ХОЛМС» НА БРАНЯПОЕЗДЗЕ

Браняпоезд, які абараняў подступы да Бірабіджана з боку Кітая, прададзены мясцовай камерцыйнай структуры. З грознай тэхнікі знялі зброю, пасля чаго яе купіла ў вайсковай часці вышукальнае бюро «Холмс». Кіраўнік бюро растлумачыў, што бранепоезд будзе выкарыстоўвацца для транспарціроўкі каштоўных грузаў на чыгунках.

### «АЎТОГРАФ» ЗА 100 РУБЛЁЎ

Омская ініцыятыўная група па збору подпісаў за правядзенне рэферэндуму аб адкліканні прэзідэнта Ельцына з яго пасады за кожны «аўтограф» у падпісным лісце выплачвае 100 рублёў.

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «БІ-БІ-СІ»

**✱ Фрывольныя ўчынкі герцагіні Іоркскай, якая ў Францыі няблага пагуляла са сваім «саветнікам» па фінансавых пытаннях, знаходзяцца ў цэнтры ўвагі англійскіх газет. Адна з іх прысвяціла передавы артыкул, дзе адзначаецца, што герцагіня падрывае традыцыйную ўнікальнасць брытанскай манархіі.**

**Каралеўская сям'я выглядае зараз сумнай. Усе шлюбныя саюзы другога пакалення сям'і знаходзяцца ў беспарадку.**

✱ Два заходнія журналісты былі захоплены сербскімі баевікамі. Іх моцна збілі, а аднаго, кінааператара, трыбунал асудзіў на бестэрміновае зняволенне за дзеянні, накіраваныя супраць Сербскай дзяржавы.

**✱ У Кабуле працягваюцца жорсткія баі паміж групоўкамі маджахедаў. Работнікі прадстаўніцтва ААН пакінулі ўжо горад.**

**Паводле некаторых даных, у будынку прадстаўніцтва хаваецца Наджыбула. Маджахеды патрабуюць ад ААН выдачы Наджыбулы, каб аддаць яго пад суд.**

✱ Моцны ўраган «Эндру» хутка павінен абрушыцца на ўзбярэжжа штата Фларыда. Амерыканскія ўлады вырашылі эвакуіраваць больш за мільён чалавек з магчымай зоны бедства.

**✱ У водах ракі Дунай на поўдні Украіны выяўлены палачкі халеры. Гэтая хвароба пагражае насельніцтву некалькіх гарадоў.**

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

✱ У Нагорным Карабаху ў выніку рэйдаў азербайджанскай авіяцыі налічваюцца дзесяткі забітых і параненых.

**✱ Канфедэрацыя горных народаў Каўказа аб'явіла вайну Грузіі. Яе дзяржсавет ахарактарызаваў указ канфедэрацыі як беспрэцэдэнтны антычалавечы дакумент. Тым часам ужо вядзецца падрыхтоўка па перакідцы ўзброеных атрадаў горцаў у Абхазію для барацьбы з грузінскімі войскамі. Загадана прабівацца туды ўсімі спосабамі. Ва ўказе санкцыяніраваны ўсе віды барацьбы, у тым ліку і тэрор. Усе грузіны на тэрыторыі канфедэрацыі аб'яўлены заложнікамі.**

✱ Мясцовыя арганізацыі і мусульманскія групоўкі ў Афрыцы праяўляюць пасіўнасць пры дапамозе сваім братам у Самалі, народ якой моцна пакутуе ад голаду і вайны. А тым часам амерыканцы і еўрапейцы наладзілі паветраны мост для дастаўкі харчавання ў Самалі. Дарэчы, тутэйшыя мафіёзі раскрадаюць гэтую гуманітарную дапамогу і гандлююць ёю на «чорным рынку».

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

**✱ Газеты Венгрыі стракацяць загалоўкамі накшталт «Перастрэлка ў цэнтры Будапешта паміж рускімі і чэчэнскімі мафіёзі». Былыя савецкія ваеннаслужачыя, акрамя гандлю наркотыкамі, зброяй, стварылі так званы свой сутэнёрскі корпус. Ён курыруе некалькі соцень маладых дзяўчат з СНД, якіх вымушаюць займацца прастытуцыяй. «Прама са школьнай лаўкі на будапешцкую панель» — так каменціруе друк іх прыезд.**

## БРЭЖНЕЎ, БРАТ БРЭЖНЕВА

**Парушыў шасцігадовае маўчанне родны брат Брэжнева, 80-гадовы персанальны пенсіянер Якаў Ільіч. Ён заявіў, што перад смерцю былы генеральны сакратар напісаў завяшчанне.**

**Аб гэтым яму паведаміў былы кіраўнік спраў ЦК КПСС Георгій Паўлаў, той самы, што выкінуўся з акна. Завяшчанне Леанід Ільіч захоўваў у сейфе ў сваім крамлёўскім кабінеце. Якаў Ільіч у свой час тройчы званіў Гарбачову, спрабуючы высветліць лёс завяшчання, але безвынікова: той адмовіўся яго прыняць. Зараз Якаў Ільіч жыве ў звычайным доме, а кватэра яго не адрозніваецца ад мільёнаў іншых. Ён падтрымлівае сувязь з удавой Леаніда Ільіча, якая, дарэчы, зусім страціла зрок. Пасля смерці мужа яе пенсію зменшылі ўдвая. Удаве былога генсека, як і брату, адпраўленаму на пенсію ў 1972 годзе, матэрыяльна цяжка жыць.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### ПАЛІТЫКА

**МАГІЛЁЎ. На Магілёўшчыне перарэгістравана ўжо каля тысячы членаў Партыі камуністаў Беларусі. У абласным цэнтры створаны тры райкомы і гарком — больш чым 350 членаў. Яшчэ 300 камуністаў «аб'явіліся» ў Бабруйску. Створаны адпаведныя партарганізацыі ў Горках, Чавусах, Крычаве, Бялынічах, іншых гарадах вобласці. Дарэчы, у верасні плануецца правесці з'езд Партыі камуністаў Беларусі з нормай прадстаўніцтва 1 дэлегат ад 50 членаў ПКБ.**

### ЭКАЛОГІЯ

У рэспубліцы больш за 6 мільёнаў гектараў ворыва. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС 261 тысяча гектараў выключана з сельскагаспадарчых угоддзяў. Акрамя таго, 495,5 тысячы гектараў падвергліся эрозіі глебы, а яшчэ для 3,7 мільёна гектараў ёсць такая ж небяспека. Дзе тады будзем ураджай збіраць?

### СТУДЭНЦТВА

**9.637 студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцаў вучылішчаў і тэхнікумаў рэспублікі правялі гэта лета ў будатрадаўскіх спяцоўках. З іх 5.485 чалавек працавала на Беларусі ў будаўнічых і сельскагаспадарчых атрадах, праваднікамі паяздоў, на рамонце сваіх устаноў. Больш за 2 тысячы дзяўчат і юнакоў дапамагалі калгасам у нарыхтоўцы кармоў. 4.152 чалавекі выязджалі за межы Беларусі — у Цюмень, Карэлію, Якуцію, Варкуту, Стаўрапольскі край і іншыя месцы СНД.**

## НА ЖАЛЬ, У ІНДЫІ СВАЙГО ЛЕНІНА НЕ БЫЛО

Зараз колькасць непісьменных жыхароў нашай планеты складае 948 мільёнаў чалавек. З іх 281 мільён прыпадае на Індыю, 224 мільёны — на Кітай і 43 мільёны — на Пакістан. У Бангладэш налічваюцца 42 мільёны непісьменных, ў Нігерыі — 29, Інданезіі — 27, Бразіліі — 18, Егіпце — 16, Іране — 15, а ў Судане — 10,1 мільёна.

Добра, што пасля рэвалюцыі 1917 года Ленін у першую чаргу пачаў ліквідаваць у Расіі непісьменнасць.

## Мэта— аб'яднанне славян?

МАГІЛЁЎ. На імя старшыні аблвыканкома прыйшло пісьмо са Смаленскага абласнога Савета народных дэпутатаў. Суседзі з Расіі ўносяць прапанову аб стварэнні міжабласнога таварыства, якое будзе садзейнічаць адзінству славянскіх народаў, што жывуць у басейне Дняпра.

Інфармацыйны цэнтр аблсавета паведамляе, што смаляне ўжо вядуць падрыхтоўчую работу для стварэння рэгіянальнага славянскага таварыства і просяць вызначыць паўнамоцнага прадстаўніка магілёўчан для сустрэчы ў Смаленску.

## Мовы розныя патрэбны

ІЎЕ. У школьнікаў раёна расце цікавасць да польскай мовы. З пачатку навучальнага года яе будуць вывучаць 330 дзяцей з шасці школ Іўеўшчыны. У той жа час пяць мясцовых выпускнікоў прадоўжаць навучанне ў Варшаве, Любліне і Лодзі.

Міністр замежных спраў дзяржавы Ізраіль Шымон ПЕРЭС на сваёй радзіме — у пасёлку Вішнева Валожынскага раёна.
**Фота Уладзіміра ШУБЫ. Белінфарм.**

# «Локшына» для Шушкевіча

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

студзеня 1992 года № 9 намесніку старшыні райвыканкома выдзяляецца трохпакаёвая кватэра (мікрараён «Усходні», д. 10, кв. 19) жылой плошчай 51,62 кв. м., а агульнай — 87 кв. м. узамен двухпакаёвай кватэры, якую займала яго сям'я.

Сям'і т. Бяланавай В. С. (цяпер загадчыца аддзела культуры райвыканкома) на сям'ю з трох чалавек у 1980 годзе прадстаўлена жылое памяшканне па вуліцы імя Галавачова, д. 3, кв. 16 жылой плошчай 25 кв. м. На гэтую жылую плошчу 24 студзеня 1992 года аддзел унутраных спраў райвыканкома з дазволу гарвыканкома прапісвае грамадзянку Бяланаву Е. П., 1920 года нараджэння (свякроў т. Бяланавай В. С.), у той час як грамадзянцы Бяланавай Е. П. на правах асабістай уласнасці па вуліцы Лермантава, 24, належыць дом жылой плошчай 30 кв. м. (1952 года пабудовы). Гарвыканком рашэннем ад 30 студзеня 1992 года № 9 выдзяляе жыллё Бяланавай В. С. (мікрараён «Усходні», д. 10. кв. 43) жылой плошчай 51,61 кв. м, а агульнай 87 кв. м. У чарзе на атрыманне жылля т. Бяланава В. С. у гарвыканкоме не стаяла...

Абгрунтаваныя факты ў скаргах грамадзяніна Нясцёркіна Л. І. аб невыдзяленні яму ў парадку чаргі халадзільніка «Мінск». Як устаноўлена праверкай, па віне гарвыканкома (т. Стругальскі П. І.) вялікая колькасць тавараў размяркоўвалася без чаргі, а іменна: халадзільнікаў — 40 працэнтаў, кухонных гарнітураў — 51 працэнт, мяккай мэблі — 62, спальных гарнітураў — 19, тэлевізараў — 9 і набораў корпуснай мэблі — 46 працэнтаў. Пры ўмове строгага захавання гарвыканкомам чарговасці сярод грамадзян у іх рэалізацыі грамадзянін Нясцёркін Л. І. змог бы па сваёй чарзе купіць халадзільнік «Мінск»...

Выканком раённага Савета народных дэпутатаў вырашыў:

За сур'ёзныя недахопы ў размеркаванні і рэалізацыі тавараў павышанага попыту і продаж аўтамабіляў старшыні выканкома т. Стошу М. М. і нам. старшыні т. Мальцаву Г. П. аб'явіць вымовы і пазбавіць прэмій, згодна з палажэннем...

Прыняць да ведама, што старшыні гарвыканкома т. Стругальскаму П. І. аб'яўлена вымова рашэннем выканкома раённага Савета народных дэпутатаў № 88 ад 29 чэрвеня 1992 года. Рэкамендаваць гарвыканкому (старшыня т. Стругальскі П. І.) абмеркаваць факты парушэнняў жыллёвага заканадаўства, сацыяльнай справядлівасці пры выдзяленні грамадзянам тавараў павышанага попыту, за недастатковы кантроль і беспрынцыповасць у вырашэнні пытанняў вінаватых асоб прыцягнуць да адказнасці...

Рэкамендаваць у адпаведнасці з захаваннем жыллёвага заканадаўства намесніку старшыні выканкома т. Мальцаву Г. П. і загадчыцы аддзела культуры т. Бяланавай В. С. пражываць у раней выдзеленых кватэрах. Пры невырашэнні гэтых пытанняў выканкому гарадскога Савета народных дэпутатаў (тав. Стругальскі П. І.) да 1.08.1992 года прадставіць іск у народны суд на прадмет прызнання ордэраў на імя тт. Мальцава Г. П., Бяланавай В. С. несапраўднымі. Даручыць нам. старшыні выканкома т. Сахару М. П. да 20.08. 1992 года вызначыць кошт затрат пры рамонце атрыманых новых кватэр Мальцавым Г. П. і Бяланавай В. С. і ўнесці прапановы па іх кампенсацыі...

Намесніку старшыні выканкома, загадчыцы аддзела эканомікі і рыначных адносін т. Хандаковай В. Н. сумесна з фінансавым аддзелам (т. Кашыцкая А. І.) на працягу трэцяга квартала 1992 года ажыццявіць праверку правільнасці вызначэння кошту прадаваемых прадпрыемствамі і арганізацыямі аўтамабіляў грамадзянам раённай камісіяй (старшыня Кавалёў В. Х.) і ўстанавіць строгі кантроль за іх рэалізацыяй у адпаведнасці з законам...».

Якім чынам грамадзянін Нясцёркін набудзе халадзільнік? Пра гэта ў рашэнні райвыканкома ні слова: маўляў, і каню зразумела. Яны цяпер стаяць у магазінах свабодна па 40 тысяч штука. Праўда, я не ведаю, дзе гэты сціплы чалавек грошы возьме...

І няхай праяўленая вышэй прынцыповасць членаў выканкома ні Старшыню Вярхоўнага Савета, ні грамадзян не падманвае. На «закрытае» пасяджэнне выканкома, пра якое ідзе размова, не былі дапушчаны журналісты. Рашэнне не апублікавана і насельніцтва раёна ведае пра яго даволі прыблізна. Больш таго, некаторыя кіруючыя работнікі, абвінавачаныя ў «дапушчаных недахопах», на пасяджэнні не прысутнічалі, пра яго нічога да майго паведамлення не чулі і ніякіх адносін да злоўжыванняў «вялікіх рулявых» не маюць.

На сумны роздум наводзяць і наступныя факты. Пасля апублікавання ў «Беларускай ниве» артыкула «Мутанты» (№ 121 за 21 ліпеня 1992 года) у рэдакцыі некалькі дзён не змаўкалі тэлефоны: у Буда-Кашалёве не маглі знайсці нумар газеты, каб прачытаць яе. Як мне ўдалося высветліць на месцы, не ўсе арганізацыі і гаспадаркі, якія выпісваюць «Белорусскую ниву», атрымалі ў той дзень газету. Рэдакцыя «раёнкі», па словах мясцовых журналістаў, ператварылася ў хату-чытальню. Лагічным быў бы передрук імі артыкула. Але гэтага зроблена не было. І па сённяшні дзень тысячы людзей не ў курсе злоўжыванняў мясцовай мафіі. Ні слова ў раённай газеце не было і пра падзеі, што разгарнуліся вакол артыкула «Мутанты» на чарговай сесіі раённага Савета.

У парадак дня пытанне аб ім уключана не было. І на думку членаў выканкома пытання пра іх злоўжыванні ўзнікнуць не магло. Яны чамусьці лічаць, што ім дазволена ўсё мець, рабаваць дзяржаву, прысвойваць заробленае народам і саміх сябе за гэта караць вымовамі. І пры гэтым не дапускаць і думкі аб тым, што яны толькі выбраны дэпутатамі выконваць рашэнні сесій, накіраваныя на паляпшэнне жыцця людзей.

Ніхто з дэпутатаў ні аб чым не спытаў. Акрылены гэтым, старшыня райвыканкома заявіў, што стаў ахвярай паклёпу заезджага пісакі і запатрабаваў стварэння кампетэнтнай камісіі з ліку паважаных дэпутатаў райсавета для праверкі фактаў. Такая камісія была створана.

Многае мог бы прарсніць, трэба меркаваць, інструктар аблвыканкома У. Ф. Макрак, які на ўсякі «пажарны» прысутнічаў на сесіі і які займаўся ў свой час расследаваннем злачынстваў мясцовай «эліты». Пра які паклёп гаварыў Стош, калі яны абмяркоўваліся на «закрытым» пасяджэнні выканкома, калі самі штрафнікі выпісвалі сабе «ўзнагароды» ў выглядзе вымоў і пазбаўлення прэмій?

Вернемся, аднак, да інструктара аблвыканкома. Калі праз некалькі дзён да яго звярнуўся за матэрыяламі праверак адзін з членаў створанай камісіі, яму было адмоўлена, і ён быў адпраўлены ў райвыканком Буда-Кашалёва. А што ж вы хацелі? Макрак жа калі-небудзь стане загадчыкам аддзела, навошта ж псаваць «непрадуманымі дзеяннямі» сабе кар'еру? Лепш у такіх сітуацыях адпраўляць усіх далей.

Падобна, аблвыканком вырашыў спусціць на тармазах услед за незаконным распродажам аўтамабіляў у Буда-Кашалёве яшчэ і не менш нахабны і цынічны падзел мэблі, складана-бытавой тэхнікі, кватэр і дзяржаўнага транспарту. Ды ці ўдасца? Нездарма ж Нясцёркін пасылаў копіі пісьмаў старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Стоша сапраўды назаўтра пасля сесіі адпусцілі адпачываць на Чорнае мора. Нягледзячы на тое, што раён у цяжкіх умовах засухі змагаецца за хлеб, нягледзячы на тое, што тут маюць месца суцэльныя надзвычайныя здарэнні: палае каля 20 ачагоў пажараў, адразу пасля сесіі патануў у Дняпры інструктар райвыканкома, труп яго на момант адлёту старшыні райвыканкома не быў знойдзены.

Але вернемся ў Буда-Кашалёва. Рашэннем «сакрэтнага пасяджэння» выканкома, як вы памятаеце, намесніку старшыні выканкома М. Сахару прадпісвалася да 20 жніўня вызначыць кошт затрат пры рамонце атрыманых Г. Мальцавым і В. Бяланавай кватэр і ўнесці прапановы па іх кампенсацыі. Я пацікавіўся ў Мікалая Паўлавіча, як ідзе гэтая работа. І вось што пачуў у адказ:

— На выканкоме гэтае пытанне не абмяркоўвалася, яго запісаў у рашэнне кіраўнік спраў Уладзімір Галубцоў. Назаўтра пасля таго, як атрымаў гэтае рашэнне на рукі, пайшоў да Стоша і заявіў пра гэта і пра тое, што не жадаю займацца плёткамі і выконваць гэты пункт. Хочаце — стварайце камісію! Я не супраць у яе ўвайсці, як член. Не ведаю, можа, я і не маю рацыі...

Я таксама не ведаю. Члены выканкома ці дэпутаты райсавета разбяруцца. Пакуль жа ні Мальцаў, ні Бяланава кватэр не здалі, а старшыня гарвыканкома П. Стругальскі да 1 жніўня, як яму прадпісвалася рашэннем выканкома, іск у народны суд на прадмет прызнання ордэраў на імя Мальцава і Бяланавай несапраўднымі не прадставіў.

Ці магчыма нарысаваць больш красамоўна становішча з уладай або, дакладней, з безуладдзем у Буда-Кашалёве? Куды ўжо далей: самі члены выканкома парушаюць, цягнуць, самі сябе караюць, прымаюць рашэнні і іх жа не выконваюць! Як жа яны пасля гэтага могуць патрабаваць ад астатніх? А яны і не патрабуюць...

Мне давялося паназіраць за работай камісіі па надзвычайных сітуацыях райвыканкома, якую ўзначальвае намеснік старшыні Мікалай Ермакоў. Дык вось, яе члены паўдня беспаспяхова шукалі транспарт, каб выехаць на месца найбольш моцных пажараў. Так і не знайшлі. А ў гэты час міма вокнаў праносіліся вясельныя картэжы, у якіх былі задзейнічаны і чорная «Волга», якая належала ў свой час райкому КПБ, прададзеная потым за бясцэнак дырэктару агразабеспячэння Фёдару Свердлікаву, і «Волга» агразабеспячэння, і амаль увесь парк аўтамабіляў райвыканкома.

Другі намеснік старшыні райвыканкома «легендарны» Г. Мальцаў выгнаў з райвыканкомаўскага гаража сваю асабістую «Хуткую дапамогу» і паехаў на дачу паліваць агуркі.

**Пётр КАВУНОЎ.**
**Буда-Кашалёўскі раён.**

## А БАБРУЙСКІЯ ШЫНЫ АСАРАМАЦІЛІСЯ

**«ПРАВДА» паведаміла, што аўтамабілі маркі «БелАЗ» у канцэрне «Кузбасвугаль» прастойваюць менавіта з-за шын бабруйскай вытворчасці. Справа ў тым, што апошнія не вытрымліваюць ні сібірскага клімату, ні дарог. Сібіракі з радасцю адмовіліся б ад іх і перайшлі б на японскія, але няма валюты.**

# У Савеце Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

дзейнасці прафсаюзаў. У верасні 1991 г. Фонд сацыяльнага страхавання Беларусі прыняў удзел у стварэнні камерцыйнага банка прафсаюзаў рэспублікі «Прафбанк» і адлічыў у яго статутны фонд 7 млн. рублёў дзяржаўных сродкаў.

Без належнага кантролю выкарыстоўваецца фонд аздараўленчых мерапрыемстваў, створаны Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі ў асноўным за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання.

Нарэшце, і гэта асабліва падкрэслівалі ўсе члены Савета, пасля прыняцця ў красавіку гэтага года Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прафесіянальных саюзах» апошнія маюць права ажыццяўляць толькі грамадскі кантроль за работай дзяржаўных органаў сацыяльнага страхавання. Функцыі кіравання павінен быў узяць на сябе ўрад рэспублікі. Аднак ні Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, ні савет Федэрацыі прафсаюзаў да гэтага часу не ажыццявілі неабходных захадаў, каб адрэгуляваць арганізацыю сацыяльнага страхавання, сваё супрацоўніцтва ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Савет Кантрольнай палаты прыняў рашэнне інфармаваць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб парушэннях заканадаўства ў кіраванні сацыяльным страхаваннем у рэспубліцы, выкарыстанні яго грашовых пастуленняў. Савету федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прапанавана: аднавіць на рахунку Фонду сацыяльнага страхавання сродкі, укладзеныя ў камерцыйную дзейнасць; у месячны тэрмін падаць у Кантрольную палату дакументы аб законнасці адлічэння 150 млн. рублёў з Фонду сацыяльнага страхавання на разлікі з былой Усеагульнай канфедэрацыяй прафсаюзаў; у адпаведнасці з заканадаўствам урэгуляваць з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь пытанні аб выкарыстанні сродкаў на развіццё і ўзмацненне матэрыяльна-тэхнічнай базы санаторыяў, санаторыяў-прафілакторыяў, фізкультурна-аздараўленчых і дзіцячых лагераў.

Тэрытарыяльным інспекцыям Кантрольнай палаты даручана праверыць на месцах правільнасць і эфектыўнасць выкарыстання сродкаў сацыяльнага страхавання.

У сувязі са зваротам Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на пасяджэнні Савета былі разгледжаны некаторыя пытанні выканання законаў Рэспублікі Беларусь, якія датычаць банкаўскай справы. Прыняты адпаведныя рашэнні.

Члены Савета Кантрольнай палаты абмеркавалі таксама запіску Упраўлення арганізацыйна-прававой работы і сектара кантролю за раздзяржаўленнем і прыватызацыяй уласнасці «Аб асобных недахопах у сістэме кіравання дзяржаўнай маёмасцю». Вырашана інфармаваць аб сваіх вывадах і прапановах Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

На пасяджэнні Савета адзначалася, што першыя ўжо праверкі работнікаў Кантрольнай палаты выявілі цэлы шэраг недахопаў у існуючым заканадаўстве. І галоўнае, на думку членаў Савета, заключаецца ў тым, што многія законы не маюць надзейных механізмаў прыцягнення да адказнасці за іх ігнараванне ці прамое парушэнне.

У гэтай сувязі былі вызначаны меры, накіраваныя на рэалізацыю Кантрольнай палатай права заканадаўчай ініцыятывы. Вырашана ў ходзе падрыхтоўкі да чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь унесці свае прапановы ў законапраекты, якія датычаць адносін дзяржаўнай уласнасці, а таксама гаспадарчых, фінансавых і падатковых пытанняў.

**Інфармацыйна-аналітычны аддзел Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

## А НА ЎЗДЫМЕ «БЕЛАРУСЬ»

Стартаваўшы ў пачатку жніўня, другі чэмпіянат рэспублікі па футболу, які праводзіцца цяпер па еўрапейскаму календару — восень — вясна — прайшоў ужо трэцюю частку першага круга. Асаблівых нечаканасцей не здарылася. Верхні радок у турнірнай табліцы ўпэўнена займаюць мінскія дынамаўцы (дарэчы, яны толькі пасля 5-га тура выйшлі ў лідэры). У чарговай сваёй гульні, ужо на сваім полі, чэмпіёны літаральна разграмілі сярэбранага прызёра былога першынства — магілёўскі «Днепр» —4:0. У адсутнасць свайго лідэра Смірнова магілёўская каманда паблякла. Вялая гульня, незразумелая перапасоўка мяча, дарэмная спроба прабіцца да варот у адзіночку. Не дзіўна, што лепшы былы снайпер «Дняпра» Андрэй Скарабагацька пакуль што вынікавасцю не радуе.

Зусім нечакана для многіх другі радок трымае сталічная «Беларусь». Маладая мінская каманда на ўздыме — ніводнага пройгрышу. У пятым туры яна была госцем лідскага «Абутніка» і перамагла 1:0.

Па сем ачкоў набралі яшчэ дзве каманды: брэсцкае «Дынама», якое стабільна выступала і ў мінулым чэмпіянаце, і магілёўскае «Тарпеда». Футбалісты з горада над Бугам адкрылі лік сваіх нічыіх. У Маладзечна яны падзялілі ачкі з мясцовым «Металургам» — 0:0. Таксама разышліся з мірам і мінскія аўтазаводцы. У Салігорску з «Шахцёрам» вынік быў нічыйным — 1:1.

Нарабіўшы вясной многа шуму, «Трактар» цяпер пакрысе караскаецца наверх. Пасля гульні ў гасцях з «Ведрычам», у якой футбалісты абедзвюх каманд змаглі забіць толькі па аднаму голу, бабруйчане выйшлі на шостае месца.

Астатнія матчы закончыліся так: «Будаўнік»—«Лакаматыў» —2:0, БелАЗ—Гомсельмаш — 0:1, «Тарпеда» (Мг)—«Хімік»— 1:1.

Нягледзячы на 1-е месца дынамаўцаў, патэнцыяльным лідэрам з'яўляецца віцебскі КІМ, які правёў толькі дзве гульні і абедзве выйграў.

Вось як выглядае турнірная табліца пасля 5 тураў.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 4 | 3 | 1 | 0 | 12—4 | 7 |
| 2. Беларусь | 4 | 3 | 1 | 0 | 5—1 | 7 |
| 3. Дынама (Бр) | 5 | 3 | 1 | 1 | 4—1 | 7 |
| 4. Тарпеда (Мг) | 5 | 2 | 3 | 0 | 7—2 | 7 |
| 5. Хімік | 5 | 2 | 2 | 1 | 4—4 | 6 |
| 6. Трактар | 5 | 1 | 4 | 0 | 3—1 | 6 |
| 7. Ведрыч | 3 | 2 | 1 | 0 | 4—1 | 5 |
| 8. Днепр | 5 | 2 | 1 | 2 | 5—7 | 5 |
| 9. КІМ | 2 | 2 | 0 | 0 | 6—1 | 4 |
| 10. Металург | 5 | 1 | 2 | 2 | 5—5 | 4 |
| 11. Тарпеда (Мн) | 4 | 0 | 4 | 0 | 5—5 | 4 |
| 12. Шахцёр | 4 | 1 | 1 | 2 | 3—3 | 3 |
| 13. Гомсельмаш | 4 | 1 | 1 | 2 | 5—7 | 3 |
| 14. Лакаматыў | 5 | 0 | 3 | 2 | 3—7 | 3 |
| 15. Будаўнік | 4 | 1 | 0 | 3 | 3—5 | 2 |
| 16. Абутнік | 5 | 0 | 1 | 4 | 2—8 | 1 |
| 17. БелАЗ | 5 | 0 | 0 | 5 | 1—12 | 0 |

**Наступны тур пачынаецца заўтра, 26 жніўня.**

## КОШКА СА СНІДам

**Нядаўна вучоныя высветлілі, што каты таксама хварэюць «чумой XX стагоддзя». У канцы чэрвеня ў Брыстальскім універсітэце нават адкрыта клініка, у якой іх лечаць. Шматлікія факты сведчаць, што СНІД шырока распаўсюджаны сярод хатніх катоў.**

**Прапускная здольнасць клінікі — 100 вусатых-паласатых «кліентаў» адначасова. Даследаванні, праведзеныя ў маштабах Вялікабрытаніі, паказалі, што СНІД паразіў 5 працэнтаў здаровых на знешні выгляд катоў і 13 працэнтаў з тых, якім яўна нездаравілася.**

## ЦЫГАНКА ГАДАЛА...

**Колькі разоў казалі свету: сустрэча з цыганкамі-гадалкамі рэдка калі абыходзіцца без прапажы. Вось свежыя прыклады. Пасля доўгага і шматслоўнага гадання ў пінчанкі С. зніклі абручальны пярсцёнак і пярсцёнак з бурштынам. А непаўналетняя К., якая запрасіла цыганку ў кватэру, пасля таго, як тая пайшла, выявіла прапажу 16 тысяч рублёў і сямі вырабаў з золата.**

## ПАТРЭБНЫ ЭЛЕКТРОННЫЯ ГРОШЫ

**Беларусь здольная самастойна пачаць распрацоўку і вытворчасць у масавых маштабах электронных банкаўскіх сістэм. Да такой высновы прыйшла група спецыялістаў банкаў, Акадэміі навук Беларусі, навукова-вытворчых аб'яднанняў, якія вывучалі гэтую праблему ў ініцыятыўным парадку.**

Паўтара года таму яны звярнуліся ў Саўмін РБ з прапановай стварыць на тэрыторыі рэспублікі сістэму электронных плацяжоў і адпаведнай інфраструктуры. Як лічыць адзін са спецыялістаў — загадчык лабараторыі вылічальнай дыягностыкі Інстытута прыкладной фізікі АН Беларусі Валерый Венгрыновіч, зараз акадэмія ў стане арганізаваць навуковае суправаджэнне ўсёй тэхналогіі атрымання крэдытных картак і аўтаматызаваных банкаўскіх сістэм. Яе стварэнне прадстаўляе самую навукаёмістую, але і самую выгадную тэхналогію. Транснацыянальныя карпарацыі «Віза», «Амерыкен-экспрэс» і іншыя, якія займаюцца сістэмамі электронных плацяжоў, сёння адны з самых багатых і працвітаючых у свеце.

Калі ў бліжэйшай будучыні рэспубліцы ўдасца ператварыць такія сістэмы з артыкулу імпарту ў артыкул экспарту, то гэта стане аптымальным варыянтам. Сродкі, адпушчаныя на гэтыя мэты, будуць выкарыстоўвацца ўнутры рэспублікі, а не пойдуць на аплату заакіянскім бізнесменам. Заказы па гэтай лініі дапамогуць нашым прадпрыемствам і доследным арганізацыям выжыць ва ўмовах рынку.

Ёсць і альтэрнатыўны варыянт. Запрасіць заходніх «фірмачоў», і яны зробяць усё па вышэйшаму класу ў гранічна кароткі тэрмін. Але, каб пакрыць Беларусь сеткай спецыяльнай тэхнікі для банкаў, магазінаў, майстэрань і г. д., а таксама зрабіць самі крэдытныя карткі, ім, паводле некаторых ацэнак, трэба будзе заплаціць каля 10 мільёнаў долараў. Праблемы са свабодна канверсаванай валютай вядомы ўсім, а яшчэ будуць выдаткі на эксплуатацыю і ўдасканаленне такіх сістэм. Таму спецыялісты лічаць мэтазгодным самім пачаць работы па стварэнню дзяржаўнай праграмы Рэспублікі Беларусь, накіраванай на арганізацыю вытворчасці сістэм электронных плацяжоў.

**Сяргей АЛЬБЯРТОВІЧ.**

